РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ М. ГАРЭЦКІ.

# БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ

## ЗБОРНІК № 1.



1921 г.

ВІЛЬНЯ, ДРУКАРНЯ „ДРУК", СУБАЧ 2.

Рэдактар-Выдавец М. Гарэцкі.

# ЗБОРНІК
## „Беларускіх Ведамасьцей“.

**№ 1.**



Вільня, 1921 г., друкарня „ДРУК“, Субач 2.

# Плач старога лясуна.

Гулка грымелі ў бары тапары,
Гулка грымелі з зары да зары...
З стогнам пакутным валіліс сасонкі,
Стан распраўляючы стромкі і тонкі.
У частым чушчары шырокай лагчыны
Моўчкі, жахліва дрыжэлі асіны...
Бор вырубалі... Ад краю да краю
Рэха няслося... З нядолі, адчаю
Сьмягнулі травы уздоўж каляіны,
Там, дзе начніцам калісьці тканіны
Месяц ды белы туман разам ткалі,
Там, дзе імглы калыхаліся хвалі...
Бор вырубалі... Нястройна, балюча
Гул нёсься ў даль пераз сьметніка кучы,
Нёсься праз сьвежыя пні залатыя,
Нёсься у нетры дзікія, густыя..

*
* *

Плакаў чарот над іржавым балотам,
Кракаў крумкач чарнакрылы пралётам,
Шэрыя совы, што ночкай лятали,
Плакалі й тыя, што бор вырубалі...
Не, то стагналі там, пеўна, ня совы,
Плач той быў дзікі, галосны і новы, —
Плакаў, прысеўшы на пні і галіны,
Стары лясун у начныя часіны..
Плакаў лясун, абціраючы вочы...
Сьлёзы, бы зоры у восень, у ночы,

Часта зрываліcь, па шчоках каціліcь,
У зморшчынах чыстай расою іскрыліcь...
Хмарыліcь горка калматыя бровы,
Вусны крывіліcь, і новыя словы
Рваліcь з магутных грудзёў лясуновых,
Рэхам каціліcь да пушчаў цярновых...

*
* *

Плакаў лясун, што лясы высякалі,
Шэпты начы новы плач выгукалі.
Доўга хадзіў ён, хадзіў неспакойны,
Там, дзе учора спаў бор яго стройны.
Вецер, разьвеяўшы космы сівыя,
Аж па-над хвоі кідаў іх густыя,
Блутаў у рэдкіх сасон верхавінах,
Блутаў, ірваў, зачапіўшы ў галінах...
У доўгай кашулі з імхоў сіваватых,
Мокрых вялікіх лапцёх кучмаватых,
Падперазаўшыся гнуткай лазою,
Брыў ён заснуўшаю сьцежкай лясною,
Брыў і трышчэў па суках і па трэсках,
Брыў і ламіўся па тых пералесках,
Дзе яшчэ сосны шумелі, зьвінелі,
У неба глядзеці далёкае сьмелі...

*
* *

Ходзіць лясун, уздыхаець пакутна,
Ходзіць па лесе то-ціха, нячутна,
То зазлуецца, ламаець галіны,
Гнець пад нагамі бярозкі, асіны...
Трэск ідзе борам... Пужлівыя совы
У дуплях хаваюць сьляпыя галовы,
Шэрыя зайцы лятуць і касяцца:
Дзе-бы ім лепей, нясьмелым, схавацца,
Людзі, пачуўшы з-пад бору раскаты,
Шэпчучы пацеры, мкнуцца да хаты,
Вецер у тон лясуну запявае,
Першае жоўтае лісьце зрывае,

Круціць у начным вільготным паветры,
Круціць, заносіць далёка у нетры...
Доўга лясун гэткай ночкай злуецца,
Доўга равець ён, пакуль ня уймецца.—

Натальля Арсеньнева.

1921 г. Вільня.

---

# У 1920 годзе.

*(Апавяданьне народнага чалавека).*

Дзеля важных патрэб нашай народнай справы я перахадзіў у восень 1920 году польска-маскоўскі фронт і адну ноч быў у нейтральным пасе.

У запэцканай і затхлай каморцы заезнага месьцячковага двара праспаў я ня меней, як гадзін пятнаццаць узапар, і прашнуўся ад гоману двух мужчынскіх галасоў у сумежнай каморцы. Мяне аддзяляла тонкая драўляная адгародка, і ўсю размову было ясна чуваць. Аднак, заняты цяжкімі думамі аб сваім прапаўшым праваднiку, я доўга не зьвяртаў на гамонячых ніякае ўвагі.

Сон мой быў трудны і кашмарны. На запыленым шкле маленькага вакна, дачакаўшага ўрэшце некалькі жоўтых косак захадзячага восеннага сонца, бесьпярэч білася, зьвінела і памірала адзіная жывая муха, і з яе кавэнчаньнем зьвязаўся мой сон, поўны ўспамінаў аб учорашнім пераходзе маскоўскага фронту.

За невялікія гоні ад нейтральнага пасу мы трапілі пад абстрэл і мусілі дзьве бясконцых, вечных гадзіны ляжаць у балоце між купніку.

Праваднiка майго, селяніна з бліжэйшай вёскі, сьвядомага, адданага ўсёй душою нашай справе чалавека, калі ён, пакінуўшы мяне ў ва-

дзе, папоўз на бераг у разьведку,—схапілі чырвонаармейцы-маскалі і б'ючы прыкладамі пагналі ў свой штаб. Мы разьлічалі, што ён сустрэнецца з чырвонаармейцам-беларусам, які пры маім першым пераходзе памог мне пераправіцца. Але іх відаць ужо зьмянілі, рахуба наша ня спраўдзілася, і чалавек прапаў.

Думка аб ім цяпер страшэнна мучыла мяне.

Я хаваўся ў яго хаце, ідучы на ўсход, цэлых тры дні; пазнаў яго сям'ю; прывязаўся к яго дзеткам, якія міла дэклямавалі мне „Ад веку мы спалі“,—і вось цяпер прадстаўленьне аб наступіўшым для іх сіроцтве мучыла мяне, атручала маю радасьць, што сам уцёк з-пад вока маскоўскае старожы і копіі ўсіх важных пастаноў Глаўнае Рады нашых усходніх арганізацый, зашытыя ў падкладцы пінжака, вынес сюды цэлымі (пальто кінуў у балоце).

— „Што цяпер падумае Аўдоцьця аб народных людзях, пагубіўшых яе мужа? А яна-ж гэтак старалася прыслужыцца мне, гэтак пільнавала накарміць мяне ўсім-чыста лепшым, што толькі было ў іх, каб хоць гэтак паказаць сваю бабскую спагаду „народнай справе“. І вось я, „важны народны чалавек“, як яна з пыхаю хвалілася сваёй матцы, я мімаволі зрабіўся прычынаю яе вялікага гора“.

— „Каб толькі не растралялі, а там неяк удасцца яго вызваліць“,—не выхадзіла ў мяне з галавы думка аб праваднiку.

А растраляць яго маглі, бо ўжо мелі на падазрэньні як „беларускага вэрхавода“ сярод акалічных сялян, варожа настроеных супроць маскоўска-бальшавіцкага наезду.

Быў у мяне і другі клопат: трэба яшчэ перабрацца цераз польскія заставы, надта ласыя да

грошы і спатвораныя сьпекулянтамі; бесьпярэч вольна пераяжджаючымі фронт.

А грошы ў мяне засталося мала: дзесяць тысяч савецкіх рублёў, адна царская пяцісотка і дзьвесьце польскіх марак.

Я разважаў: ці здаволіцца польская варта на фронце пяцісоткай і ці можна рэшту грошы пакінуць гаспадару заезнага двара, каб пераслаў сям'і праваднікa?

У гэты мамэнт гоман за сьценкай павялічыўся: там таксама спаміналіся царскія, думскія, савецкія, польскія...

Спачатку мне здавалася, што хваляцца адзін аднаму сваімі грашавымі аперацыямі сьпекулянты, якіх поўна было на заезным двары па дарозе з Вільні ў Менск і з Менску ў Вільню.

Але я ашукаўся.

— І вось, браце мой мілы,—казаў адзін з гамаміўшых,—вырваўся-ткі я з гэтага пекла, а разам і ад сваіх каханак.

— Ну, а як-жа твая школа?—спытаўся ў яго сябра?

— Школа?.. Хай яна згарыць. Цэлае лета ня мог выехаць, мусіў то пры ёй сядзець, то езьдзіць на розныя курсы і зьезды па народнай асьвеце. Наастатакк адвялі мне так званую школьную дзесяціну, і каб я на ёй сам рабіў ды яшчэ й мужыкам паказываў, як і што належыць пакультурнаму. А тут жраць няма чаго, прыладаў зэмляробскіх ніякіх ня выдалі... Пальцам я буду зямлю капаць ці што? Узяў і ўцёк у Польшчу, хай яны згараць з сваімі парадкамі!

— Так... Ну, а як-жа цяпер твае каханкі?

— З імі чыстая бяда, браце мой мілы.

— Плачуць па табе?

— А хвароба іх ведаець! Справа ня ў плаканьні, а ў тым, што наастатак прыціснулі мяне

ў кут, каб жаніўся. Ці ймеш веры?—мусіў хавацца ад мужыкоў. Выхажу я ад аднэй, а бацька другой пільнуець, каб мяне злавіць і ўзяць, казаў той, на цугундзер...

— Як-жа ты гэтулькі іх разам меў?—сьмяецца другі сябра.

— Як?—тут завядзеш хоць сотню, калі жраць няма чаго. Ты разумееш: савецкага жалаваньня вучыцелю хапаець на якіх пяць хунтаў хлеба. А мужыкі зажырэлі, цэлыя мяхі набілі грошы,—вучыцелю-ж ці там на школу каб хто даў—то ні кап'я! Па старэй памяці: школа казённая, дык палена дроў ніхто ня дасьць клясу пагрэць,—казна павінна даваць. Вось як яны гавораць. Віджу я, што трэба зусім прапасьці або пайці на якія хітрыкі. Ну і пайшоў. Зайду к аднаму гаспадару, дзе ёсьць нішто сабе дзявуля, і пачну дурня ламаць, і пра каханьне, і пра вясельле, і пра тое, што ўсе цяпер роўныя, дык вучыцелю ня грэх і з добраю сялянкаю пабрацца.. Развесяць яны вушы, думаюць: „А можа й праўда, ажэніцца з нашай курноскай?“ I ну мяне частаваць, і ну мяне падкармліваць, тут табе і сала, й сыру, і ўсякага ліха...

— Якога-ж ліха?

— Вядома, якога: доўга-ж бакі забіваць ня ўдасцца, трэба канчаць або ўцякаць. Пакручуся, пакручуся і пачынаю камэдзь гуляць з другою потым з трэцяю. I так разьвялося іх у мяне ў нашай акрузе дзесяткі два. Дайшло да таго, што не магу носу нідзе паказаць: бацькі ловяць, прыстаюць, калі-ж вясельле думаю рабіць? Дзеўкі паміж-собку сварацца, тая на тую зводзяць, аслаўляюць, на мяне наракаюць. Адным словам, зрабіўся я быццам заводзкі бык на скотнай ферме, раданькі сабе даць ня мог.

— Але-ж выкруціўся?

— Насілу, браце мілы! Адна гарачая ня ўдзержылась і зацяжэла. Прыходзіць што нядзелячкі да мяне з бацькам ці з маткаю, прыступаець з нажом к горлу: жаніся! Плача, галосіць, то просіць, то паграждаець у савет пажаліцца.

— О, то гэта ўжо ня жарты!

— Якія, чорта, жарты... Пажаліўся-ткі бацька на мяне у савет, што дзеўку зьвёў, а жаніцца не хачу. Гукаюць мяне, раба божага, на пакуту.— „Што-ж вы, таварыш-настаўнік, робіце, — кажа камісар,—мы вас прымусім з ёй жаніцца".—І прымушаць,—кажу,—ня трэба, таварыш-камісар, хай хоць зараз ідзець да мяне ў жонкі". Камісар мой і асекся".—„Чаго-ж яны жаляцца?"—Ня ведаю,— кажу яму,—мабыць, хочуць царкоўнага вянца, а я хоць беспартыйны, але камуніст у душы і прызнаю толькі вольнае сужыцьце з жанчынаю". Няма яму чаго казаць, відзіць, што наскачыла каса на камень"...

Субяседнікі парагаталі, потым на нейкі час змоўклі, як бы прыслухаліся да маей сьценкі.

— Як чалавек захоча спаць, то й гоману не пабаіцца, — пачуў я голас вучыцеля; — ды й ня так-жа мы голасна гамонім,—дадаў ён.

— Гаспадар папераджаў, каб цішэй былі: там сьпіць нейкі праезны пан.

— Ат, нічога...

Яны нешта пілі, можа ханджу, і заядалі драчонамі, хвалячы іх, курылі дужа сьмярдзючую табаку, харкалі, плявалі, шаргалі нагамі і за гоманам ня чулі, як я асьцярожна адчыніў фортачку і пусьціў у камору сьвежае паветра. За вакном на сьцяне пуні ячэ стаяла астатняе сонца. Гдзесь з боку тупаў конь і зрэдка далятали галасы — гаспадара-крамніка ці яго і якога-небудзь мужыка. Потым усё сьціхала на даўгі час, дзеля таго што ў будні дзень сяляне у мясьцечку рэдкія госьці.

— Ну, а як-жа, браце мілы, ты?—спытаўся той, што ўцёк з-пад бальшавікоў. Ён быў у радасным пад'ёме, толькі што пераказаўшы, як за малы хабар бальшавіку шчасна перабраўся цераз фронт, а жыдоў, што йшлі з ім разам, злавілі і павялі у штаб.

— Я? — перапытаўся акупаваны Польшчак, набраў паветра повен рот і шумна выдыхнуў, відаць, рыхтаваўся гаварыць з прыемнасьцю й падробна. — Я „прымазаўся" да беларусаў, дастаю паёк у беларускай вайсковай арганізацыі і пакуль што—гора ў край! Цяпер прыехаў вось сюды вербаваць ахвотнікаў.

— Чакай,—перабіў вучыцель, — то, можа-б, ты й мяне завербаваў. Што для гэтага патрэбна? Я тожа беларус.

— А нічога,—адказаў яму вярбоўнік,—толькі язык прыдзецца трохі паламаць...

— І ўсяго? Дык мне гэта ня страшна, з каханкамі я толькі пабеларуску й гаманіў.

— А пісаць пабеларуску ўмееш?

— Спрабаваў. У нас пайшлі былі пагалоскі, што будзе Беларусь, дык прыдзецца у школах навучаць пабеларуску. На зьезьдзе ў Гомеле загадчыкаў народнае асьветы штось такое пастанавілі, але прыказу вучыцялём ніякага ня было, дык я і кінуў. Я навет літэратуру беларускую трохі знаю. Чуў ты калі „Тараса на Парнасе"?

— Не, а што гэта за штука?

— Ну, слухай:

Ці знаў хто, брацпы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў, —
На Пуцявішчы, ля Панаса,
Ён там ля лазьні блізка жыў.
Што-ж, чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губу ён ня браў...

— Стой!—спыніў яго афіцэр,—дык ты ў нас

зараз дзеячам беларускім будзеш. Я, прызнацца, не шаную гэтай мовы: дык, няхай, чаго... адно сьвінства!

— А як-жа ты вярбуеш? Трэба-ж, мабыць, агітаваць за Беларусь?

— Ха-ха-ха!—зарагатаў вярбоўнік.—Вы там прыймаеце усё ў сур'ёз і думаеце, што мы заpraўды робім тут якую-сь Беларусь! Гэта-ж адна камэдзія, каб палякі давалі пайкі і грошы. Якога чорга я завярбую,—калі ніхто із мужыкоў ня пішацца. Сам народ ня хоча ніякай Беларусі.

Вучыцель у вадказ маўчаў, мабыць, ня згодзіўся з паглядам сябры.

— Ну, не, браце мой мілы — сказаў ён памаўчаўшы,—мне, здаецца, што яна будзе. Надта-ж пільна некаторыя узяліся за гэту справу. Ты ведаеш, што навет у нас там завялісь цяпер такія заядлыя беларусы, што скажы яму наўпроці хоць-бы жартам, руку ня будзе падаваць.

— Дык і ў нас хапаець падобных ідыотаў, але-ж мы з іх толькі пасьмяхаемся. А што яны зробяць бяз войска?

— Што войска? Цяпер і з войскам рады не дасі. З аднаго боку бальшавікі, з другога палякі. Але я ведаю добра, што беларуская агітацыя страшэнна шырыцца. У нас увесь народ за беларусаў, хоць другі дагэтуль і ня ведаў, што ён таксама беларус. За беларусамі цяпера пойдзець кожны селянін, бо ад іх толькі ён і спадзяецца добрага.

— Дык чаму-ж ты яшчэ не ў беларусах, гэткі гарачы?—насьмешліва і нездаволена спытаўся афіцэр. Як будзе ядзіная недзялімая Расея, то я й цябе адным заходам пастараюся павесіць.

— Мабыць, я гэта прадчуваў, затое вось высьцярагаўся,—жартам адказаў вучыцель. — А ўсё-ж ты мяне завярбуй у сваё беларускае войска па старой дружбе.

Тут гутарка субяседнікаў узьбілася на ўспаміны аб іх даўнеўшай службе ў адным палку, і я перастаў іх слухаць.

У дзьверы маей каморкі пастукалі. Прыйшоў з таёмным відам гаспадар, а з ім разам падводчык віленскіх жыдоў-сьпекулянтаў.

Гаспадар памог мне ўмовіцца на падарожу з забасьпечаным пераездам цераз польскую лінію за 2.000 польскіх марак (з выплатаю у Вільні).

За паўгадзіны фурманка была гатова, і я выехаў у кампаніі трох сьпекулянтаў, так і ня ўвідзіўшы падслуханых мною сяброў.

27. VIII. 1921.

*Максім Гарэцкі.*

---

# Літоўскі Статут

**(Беларускія законы).**

Літоўскім Статутам называецца знамяніты зборнік даўных законаў Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Законы гэтыя спрадвеку былі ў сьвядомасьці беларускіх і літоўскіх пляменьняў; яны разьвіваліся, дапаўняліся і пераходзілі з рода ў род праз ужытак іх на практыцы.

У пачатку 16-га веку нашыя выдатныя законьнікі сабралі іх, апрацавалі згодна з правам усіх эўропейскіх народаў і запісалі ў зручным для карыстаньня парадку. Скончылі яны сваю працу ў 1529 годзе.

Літоўскі статут адразу здабыў сабе славу. Цераз год яго пераклалі з беларускае мовы на лацінскую, а цераз тры гады на польскую.

Дзеля некаторых зьмен у гаспадарственым ладзе стары беларускі Статут быў пазьней пера-

гледжаны. У другой редакцыі ён быў зацьверджаны на віленскім сойме ў 1566 годзе.

Люблінская вунія нашае бацькаўшчыны з польскім каралеўствам прынесла, як ведама, яшчэ большыя зьмены ў праўных адносінах у Беларусі і Літве. І вось Літоўскі Статут быў ізноў перагледжаны асобнаю камісіяй пад старшынствам ведамага канцлера Лявона Сапегі і зацьверджаны соймам ў 1588 годзе.

Статут 1588 году быў надрукаваны ў віленскай беларускай друкарні слаўных братоў Мамонічаў. Адна кніжка ёсьць цяпер у Беларускім Нацыянальным Музэю Луцкевіча ў Вільні.

Мова Літоўскага Статута служыць прыкладам урадовае беларускае мовы 16-га веку, а ўвесь Літоўскі Статут ёсьць нязвычайна дарагой памяткай нашае слаўнае мінуўшчыны.

Літоўскі Статут сьведчыць аб высокім разьвіцьці беларускае культуры. Гэты зборнік законаў бараніў адзінства і самастойнасьць нашае бацькаўшчыны.

## З Літоўскага Статуту у рэдакцыі 1529 г.

### РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ.

**Будучі в Полшчы не маем‘ нічого нікому даваті ані прівілеев‘ потвержаті.**

25. Теж уставуем, іж от того часу мы самі (король, вялікі князь) і потомкі нашы будучі в‘ панстве нашом короне польской немаем нікому нічого в панстве нашом веліком Князстве Літ. іменей людей і земль даваті і первых данін‘ кому будет далі потвержаті, ніжлі мы самі і потомкі будучі у веліком Князстве подданным нашім маем даваті і обдароваті подлуг іх заслуг, і прів-

лев' на вечную реч не маем індо нікому даваті оліж' кгды будем' весполок' с паны радамі нашімі на валном' соймі. А так еслі бы хто после тое уставы нашое якокольвек в нас людi і землі кгды будем в Полшчі упросіл, або первую даніну нашу прівільем нашім' потверділ таковые лісты і прівіля нашi ні увошто оборочаем і не маем іх мы самі держаті і потомкі нашы, ніжлі што ся дотычет куплі кождому везде і у панстве нашом' коруне полской будучі маем' то потверждаті.

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ.

### О девкі, кcторые будут' выданы до чужое землі.

10. Теж' уставуем, естлі бы которая девка панства нашего велікого Князства Літовского пошла до чужое землі до Полшчы або до Мазовш' або до которое колве землі, маючы іменя отчізные і матерістые в панстве нашом велiком Князстве Літовском; тогды тая девка с' тым мужом своім чужоземцом не мает дедічіті в тых іменях своіх' тыя імене ее отчізные і матерістые мают пріті на стрыев' рожоных', а не будет лі стрыев, іно на блізкіх ее, а оні не повінні ей будуть пасагу даті, яко в' тых правех опісано девком зыменей і четвертое часті даваті.

# З друкаванага Літоўскага Статуту у рэдакцыі 1588 г.

## АРТЫКУЛ' ПЕРШЫ.

### Всі обывателі велікого Князства літовского тым одным' правом' пісаным, і от нас' даным' сужоны быті мают'.

Напрод' мы годр' обецуем' і шлюбуем', под' тою ж' прісегою, которую учінілі есмо всім' обывателем', всіх' земль паньства нашого Велікого Князства Літовского, іж' всіх' княжат' панов' рад,

духовныхь і светскіх, панов' хоруговных' шляхту, места і всіх' подданых' нашіх', і всіх' станов' в том панстве нашом' велікомь князстве літовском', і інных, всіх' земль, здавна кутому паньству пріслухаючіх', почон'шы от вышшого стану аж до ніжшого, тымі однымі правы і артыкулы, в том' же статуте ніжей пісанымі, і от нась данымі судіті і справоваті маем' також чужоземьцы загранічнікі велікого князства літов'ского, пріеж'дчые і якім' колвек' обычаем' прібылые люді, тым же правом мают' быть сужоны, і на тых' врадехь где хто выступіт'.

## АРТЫКУЛ ДРУГІ

**Мы годр' шлюбуем' нікого не караті на заочное поведаньне, хотябы дотыкалося маестату нашого годрского...**

Подлуг — па, згодна (з заслугамі). Інде — яшчэ гдзе у другім месцу. Весполок' — супольна, сумесна, разам. Дедічіті — даставаць права на спадчыну, маемасьць. Стрыев' — дзядзек. Зыменей — з маемасьці.

Напрод — найперш, наперад. Шлюбуем — дэкляруем. Почон'шы — пачаушы. Врадехь — урадах, установах. Маестату — дастойнасьці.

# З літэратурнай хрыстаматыі.

Па вёсках Заходняй Беларусі скрозь можна пачуць, як народ кажа на памяць вершы: „Здарэньне“, „Хрэсьбіны Мацюка“, „Кепска будзе“, Быў у чысцы“ і іншыя. Аднак, народ ня ведаець, хто гэтыя вершы напісаў. Народ наш ня ведаець імя вялікага песьняра Беларускае Зямлі, імя бацькі нашага адраджэньня ў навейшыя часы— Францішка Багушэвіча. Толькі за астатнія

гады, калі кніжка беларуская вальней пашыраецца ў народнай гушчы, пісьменныя сяляне маюць магчымасьць купіць і прачытаць „Дудку Беларускую“ Мацея Бурачка або „Смык Беларускі“ Сымона Рэўкі з-пад Барысава, дзе сабраны вершы Францішка Багушэвіча пад гэтымі псэўданімамі (вымышленымі іменьнямі).

Францішак Багушэвіч радзіўся ў 1840 годзе і памёр у 1900 годзе. Пахадзіў ён з Ашмяншчыны, са шляхоцкай сям'і. Вучыўся ў Вільні і Пецярбургу, жыў доўгі час на Украіне, а канец жыцьця правёў у Вільні і ў сваім дварку Кушляны ў Ашмяншчыне. Пахован у Жупранах, таксама Ашмянскага павету. Поэт наш быў адвакатам і ўсе свае сілы аддаў на абарону правоў сярмяжнага люду. Але галоўная заслуга песьняра у тым, што ён пад страшным уціскам чужынцоў і сваіх паноў і гандляроў пяяў людцам родныя песьні аб іх долі-нядолі, будзіў думку аб адраджэньні і першы паклаў наймацнейшыя падваліны пад наш вызваленчы нацыянальна-сэцыяльны рух.

Кніжкі Францішка Багушэвіча выйшлі ўжо чацьвёртым і пятым выданьнем і трэба ўзноў іх выдаваць, бо у продажы іх засталося дужа мала. На жаль, і „Дудка“ і „Смык“ друкаваліся дагэтуль толькі лацінскімі літэрамі, і праваслаўны беларускі на-

род ня ўмеў іх чытаць. Будзем спадзявацца, што беларускія выдаўцы парупяцца надрукаваць іх таксама і нашымі буквамі для праваслаўных, а пакуль што, даўшы для народа гэтую самую кароткую ведамасьць аб слаўным песьняру, зьмяшчаем тут некалькі яго кароценькіх free вершыкаў.

## Хмаркі.

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нідзе-ж для вас няма хатанькі...
Адпачынепе аж у БоSжанькі!
Гдзе радзіліся, гдзе-ж вы, хмарачкі?
Гдзе „тутэйшімы“ называліся?
Ляціцё усё так, як ярачкі....
Хоць-бы трошкі гдзе затрымаліся!
Зямлі родненькай знаць няма у вас,
Ні уголачка, ні прытулачку:
А тут вецер дьзме горшы раз-у-раз,
Ляцідё-жа вы без ратуначку!
Лятучы, сьлязой зямлю росіце,
Аж шумяць лісткі, зелянее лес;
Уміраючы, жыцьцё носіце,
Усяму жыцьцё, сабе толькі крэс!*)

## Калыханка.

Люлі, сынок, люлі-люлі!
Усе курачкі паснулі,

*) Канец, пакон.

Ой, паснулі і курчаткі
Пад крыламі свае маткі.
А ты чаго ня сьпіш, сынку,
Як-бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыйдзе ў госьці,
Ой-то будзе ёй радосьці...
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ей паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякінькім, падсітным,
Піражочкам і з начынкай
Верашчакай, гарачынкай...
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі.
Ось то будзе рада матка,—
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам:
Людцаў Божых будзеш біці;
Цяжка будзе ў свеце жыці,
Будуць клясьці, як ліхога,
Прасіць сьмертухны ад Бога.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Тады матка прыйдзе ў госьці—
Сын выкіне стары косьці,
Жабруючы пойдзе ў вёску,
Будзе прасіць Матку Боску,
Каб забыцца ёй аб сыне

Каб ня ведаць, гдзе ён згіне
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Ой, ня будзь ты лепей панам,
Ні вялікім капітанам,
Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госьці не хадзіла,



Ф. Багушэвіч.

Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Усе курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад крыламі свае маткі...

# Бог ня роуна дзеле.

Бог сіроты любіць, але долі не дае (прыказка).

Чым то дзеецца на сьвеце,
Што ня роўна дзеле Бог? —

Адзін ходзіць у саеце,
У залоце з плеч да ног,
А другому, каб прыкрыцца
Хоць анучай,—велькі труд;
Увесь, як рэшата, сьвяціцца,
Адны латы, адзін бруд!

Адзін мае хатаў многа,
А вялікіх,—касьцёл моў;
Увясьці-б туды хоць Бога,
І той-бы з іх не пайшоў.
У другога ў сьцяне дзюры,
Вецер ходзе, дым і сьнег;
Тут карова, сьвіньні, куры...
Тут пакута, тут і грэх!

Гэты едзе у вагоне.—
Цёпла, мягка, толькі жыць;
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі сьпіць!
Той ў мяцеліцу, ў марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,
У сьнягу увесь па брух!

Гэты хлеба і ня знае,
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што ня змог!
А той хлеб жуе з мякінай,
Хлёпча квас ды лебяду,

Разам жывець і есьць з свінкай,
З канём разам п'єць ваду!

Аднаму дзесяткі-служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго як падушкі,
Як кісель, дрыжыць жывот!
Другі-ж сам аж на дзесятак
Працуючы, лье свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

## Песьня № 7.

Гарцуй, танцуй, пане,
Табе хлеба стане.
Скачы, круці жвава
Налева направа!
Прадай, прадай ніўку,
Будзе на выпіўку;
Прадай, прадай злыдні —
Будзе на два тыдні;
Прадай жонку, дзеці —
Выстарча на трэці,
Прадай лес да дрэўка —
Будзе сьвежа дзеўка.
Прадай усё чыста —
Будзе срэбных трыста.
Прадай сваю славу,
Прадай і Варшаву,
Прадай і чэсьць дочкі
За віна паў бочкі.
Бо пан будзе панам
На векі і амэн!
Танцуй, гарцуй, пане,
Покі духу стане.

# 400-лецьце ДРУКУ У ВІЛЬНІ.

Беларускае пісьменства пачалося дужа рана, з прыняцьцем хрысьціянства, ў 10-11 в. в. Але даўгі час ня было у нас друкаваных кніжак, а былі толькі пісаныя ад рукі. Дзеля таго, што пісьменых людзей тады было зусім мала, а ручны спо-



**Д-р Францыск Скарына.**

саб пісаньня кніжак вымагаў шмат часу і добрага накладу, — рукапісныя кнігі каштавалі вельмі дарага і былі бадай у вадных князёў ды багатыроў.

Такі парадак цягнуўся аж да 6-га жніўня 1517 г., калі вялікі беларускі пісьменьнік і дзеяч

тых старадаўных часоў, доктар Францыск Ска-

## ПОСЛАНИЯ :~

Доконеня є сия книга зовемая апос
тол, иже замыкаеє в собе найпервей
деяния апостольская. Потомъ посланией
святых апостолъ, соборныхъ седмь :~
Тажъ епистоли святого павла ДI :~ Ле
та по нароженьи нашего Спасителя Iса
Христа Сына божия. Тысещнаго, Пятьсо
тного, И деядесеть пятого. Месеця мар
та :~ Придержаней наяснейшего го
сподаря Жикгимонта Казимировича,
Короля полского. И великого князя Ли
товского, И руского, И жомойтьского
И иныхъ. В славном месте виленском
выложена, и вытиснена. Працею и вели
кою пилностию. Доктора францыска
скорины с полоцка :~ Богу в тройци еди
ному. И пречистой матери его марии, со в
семи святыми к чьти. И лю
дем посполитымъ к доб
рому научению :~

Апостал Скарыны.

рына Полацкі пусьціў на сьвет першую друкаваную беларускую кніжку.

Гэты дзень і лічыцца пачаткам нашага дру-

ку. У 1917 годзе, 6 жніўня, беларусы сьвяткавалі 400-лецьце свайго друку.

Доктар Скарына радзіўся каля 1490 году ў Полацку. Бацька яго быў купец. Францыска наўчыўся граматы ў Полацку, а потым нейкім спосабам папаў у Вільню, калі меў гадоў 13—14. Хлапец ён быў добры і старанны і з Вільні здолеў папасьці ў Кракаўскі унівэрсытэт. Прайшоў там вышэйшыя навукі і дастаў доктарскі дыплём. Адтуль ён перабраўся ў Прагу, у Чэхію, дзе было зручней працаваць, і пачаў перакладаць на беларускую мову Біблію. Пераклаў і выдрукаваў ён за 1517, 1518, і 1519 г. г. ажно 22 кніжкі старога завету. Пасьля таго ён пераехаў у Вільню.

У сталіцы ён залажыў друкарню ў доме бурмістра Бабіча і ў 1525 годзе выдрукаваў першую кніжку ў роднай зямлі — „Малую падарожную кніжыцу“ (для купцоў, падарожнікаў, каб мелі па чым маліцца, чытаць пабеларуску і пазнаваць сьвятыя дні).

Гэта была першая друкарня ў Вільні. Польская друкарня ў Вільні адчынілася на 51 год пазьней, у 1576 годзе.

Такім чынам, у 1925 годзе Вільня мае сьвяткаваць 400-лецьце свайго друку.

---

# Люблінская вунія 1569 году.

## Парадкі ў Беларусі да вуніі з Польшчаю 1386 г.

У старавечныя часы ў Беларусі ўтварылася народная ўлада веча. Веча кіравала ўсім унутраным і замежным грамадзкім і гаспадарсьцьвеным жыцьцём беларускага народу. Веча абірала і зьмяняла князёў, судзіла людзей, рабіла гандлё-

выя ўмовы з іншымі гарадамі і народамі; яно-ж пастанаўляла аб вайне і міры.

У XIV веку ўсе беларускія князьствы або самахоць прылучыліся або былі вайною прылучаны да новага Літоўска-Беларускага гаспадарства. Першыя літоўска-беларускія князі ўзгадаваліся паміж літоўскага народу. Ліцьвіны ня мелі ўстаноўленых формаў народнае ўлады і дзеля гэтага не маглі працівіцца князьскай уладзе. Дык літоўска-беларускія князі сталі самаўладнымі гаспадарамі. У прылучаных да новага гаспадарства беларускіх землях гэныя князі адабралі ад веча яго замежную ўладу. Ужо ўмовы з чужымі гаспадарствамі, вайна і мір залежылі не ад веча, а ад вялікага літоўска-беларускага князя. Адабраньне ад веча яго замежнае ўлады дало з часам магчымасьць вялікаму князю Ягайле самадумам зрабіць у 1386 г. вунію з Польшчаю.

Але ўнутраны парадак у беларускіх землях і пры Вялікім Літоўска-Беларускім князьстве аставаўся даўнейшым. Прылучаючы адно па адным беларускае князьства да Літоўска-Беларускага гаспадарства, вялікія князі пакідалі ў ім усе старыя ўнутраныя парадкі. Гэныя беларускія парадкі вялікія князі пацьвярджалі выдаванымі беларускім землям граматамі, у якіх яны казалі „мы старыны ня рухаем і навіны ня ўводзім“. Веча па даўнейшаму кіравала ўнутраным жыцьцём. Беларускі народ, як і раней, аставаўся свабодным, хоць і дзяліўся ўжо на сялян і баяр. Баяры мелі некаторыя палёгкі за тое, што заўсёды абавязаны былі ісьці на вайну. Былі такжа „путныя баяры“, якія павінны былі правіць дарогі. Сяляне не залежылі ад баяр. Сваёй маемасьцяй баяры часта зусім ня розьніліся ад сялян. У справах палітыкі, ў справах гаспадарсьцьвенае вагі мелі вялікае значаньне багатыя князёўскія і баярскія рады (так званыя потым магнаты). З радоў гэных

адзначаліся Сапегі, Храптовічы, Тышкевічы, Радзівіллы і шмат інш. У палітычных справах ад іх залежылі аднакава сяляне і баяры.

## Як зьмяніліся ўнутраныя парадкі ў Беларусі пасьля 1386 г.

У Польшчы парадкі зусім былі йнакшыя, як у Беларусі. Паны і шляхта ў справах палітычных былі паміж сабою роўныя. Ад паноў-жа і ад шляхты вельмі залежалі сяляне.

Пасьля вуніі 1386 г. Літоўска-Беларускага гаспадарства з Польшчаю палітычныя правы беларускіх вялікіх паноў яшчэ павялічыліся, бо в. князі абіраліся, і ўлада вялікага князя стала абмежанаю. Разам з гэтым пачынаюць з Польшчы йсьці ў Беларусь шляхоцкія ўплывы. Беларускія баяры (з часам яны па польскаму прыкладу сталі называцца шляхтаю) стыкаліся з польскаю шляхтаю. Баярам нашым падабаліся прывілеі і правы польскае шляхты, і яны памалу таксама пачынаюць дамагацца залежнасьці ад сябе сялян і зраўнаваньня баяр у палітычных правох з магнатамі. Прывілеі гэтыя беларуская шляхта памалу здабывае. Кожная такая здабыча родзіць прагавітасьць да новых. Узьнімаецца заўзятая барацьба за шляхоцкія прывілеі. Ідэю бацькаўшчыны шляхта забываецца, а прымае новую ідэю, ідэю шляхоцтва. Каб зусім зраўнавацца ў прывілеях з польскаю шляхтаю, беларуская шляхта дамагалася вуніі (злучэньня) з Польшчаю.

## Адносіны да Польшчы.

Да вуніі 1386 г. беларусы і ліцьвіны жылі згодна ў адным гаспадарстве. З 1386 г. ліцьвіны становяцца аднэй веры з палякамі. Адгэтуль па-

лякі здабываюць уплыў у літоўскім грамадзянстве і скіроўваюць гэтае грамадзянства проці беларусаў.

Сваркі паміж ліцьвінамі і беларусамі вельмі шкодзілі сіле і магутнасьці Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Кірункі палітыкі Польшчы і Беларусі былі зусім розныя. Польскія інтарэсы былі на захадзе, у Венгрыі, Чэхіі і г. д., а беларускія—на ўсходзе і поўначы (Лівонія). Дзеля гэтага, калі вялікі князь літоўска-беларускі быў разам і кароль польскі, супольны гаспадар уцягаваў Літоўска-Беларускае гаспадарства ў чужыя для яго інтарэсы на захадзе, і адначасна не зварочавалася тады ўвагі на нашыя ўсходнія межы; выпушчалі для Літвы-Беларусі В. Ноўгарад, Лівонію, дапушчалі ўзмацавацца Маскоўшчыне.

Ад усяго гэтага Літоўска-Беларускае гаспадарства саабела, і прыходзіў час, калі яно ўжо дзеля абароны ад Маскоўшчыны патрабавала помачы суседзяў.

## Як была зроблена Люблінская вунія.

У 1569 г. у беларусаў цягнулася даўгая і цяжкая вайна з Маскоўшчынаю за Лівонію. Апрача гэтага былі напады крымскіх татар на паўднёвыя правінцыі Літоўска-Беларускага гаспадарства. Тым часам шляхта болей думала аб сваіх прывілеях, чымся аб абароне бацькаўшчыны. Польшча мела тады з Літвою-Беларусяй аднаго супольнага гаспадара Жыгімонта III Аўгуста, ад яе і павінна была-б прысьці падмога. Жыгімонт III Аўгуст быў апошнім гаспадаром з роду Ягайлавічаў. Палякі баяліся, што пасьля яго сьмерці беларусы і ліцьвіны аберуць сабе асобнага гаспадара, і стараліся зрабіць вунію паміж Польшчай і Літвой-Беларусяй.

Дзеля гэтага быў згуканы зьезд у Любліне. Але беларускія і літоўскія паслы на гэным зьездзе, ня гледзячы на дамаганьне караля, палякоў і свае шляхты, не згадзіліся на вунію і паехалі дамоў. Тады кароль пачаў прылучаць да Польшчы ўкраінскія землі Літоўска-Беларускага гаспадарства. Ваюючы з Маскоўшчынаю, праганяючы з паўднёвых зямель татар, Літоўска-Беларускае гаспадарства не магло весьці яшчэ трэцяе вайны з Польшчаю і прымушана было згадзіцца на вунію, якая і адбылася ў 1569 г. у Любліне.

Паводле Люблінкае вуніі Літоўска-Беларускае гаспадарства траціла сваю незалежнасьць, ствaралася з Польшчы і Літвы-Беларусі адно супольнае гаспадарства пад назовам Рэчыпаспалітае.

Новае гаспадарства маець аднаго гаспадара, які абіраецца агульным соймам у Варшаве. Апрача гэтага, ад Літоўска-Беларускага гаспадарства адкялі ўсю Украіну і прылучылі да Польшчы. Гэтым, як казалі ў Любліне нашыя паслы, адразалася крыльле нашай бацькаўшчыне. Раней палякі ня мелі права купляць зямлі ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве і займаць там ўрадаў; па вуніі яны гэтае права дасталі.

Літоўска-Беларускае гаспадарства, хоць і ў залежнасьці ад Польшчы, істнавала яшчэ доўга пасьля Люблінскае вуніі. Ува ўсіх урадах гаспадарства, як і раней ужывалася беларуская мова; інакш, як пабеларуску, пісаць было забаронена Літоўскім Статутам. І толькі ў 1697 г. спалячаныя паны настанавілі перайсьці на польскую мову.

П. Станіч.

# Берасьцейская царкоўная вунія 1596 г.

Люблінская вунія клала канец незалежнасьці Літоўска-Беларускага гаспадарства, прымушала яго цягнуцца да Польшчы. Але вялікай пералашкодай гэтаму станавілася розьніца веры. У Польшчы панавала каталіцкая вера, а ў Беларусі—праваслаўная. Паны і багатыя людзі прыймалі ахвотна каталіцкую веру, бо яна давала ім розныя выгады, а просты народ ставаўся праваслаўным. Каталіцкую веру ў той час правадзілі манахі-езуіты. Уся адукацыя была ў іх руках. Школы іхныя былі пастаўлены дужа добра, і ўсе, хто хацеў вучыцца, ахвотна туды ішоў. Такім парадкам, у скорым часе блізу ўся шляхта стала каталікамі. Праваслаўыым аставаўся толькі просты народ, і на гэта зьвярнулі сваю ўвагу езуіты. Але прымушаць людзей сілком пераходзіць у каталіцтва езуіты не хацелі, а ў школах просты народ ня меў магчымасьці вучыцца, дык для зьліжэньня дзьвюх вер была прыдумана вунія. Думка аб вуніі і раней прыходзіла ў галовы лепшым людзём Беларусі, бо яны відзелі, колькі цярпіць край ад рэлігійнае розьніцы. Праваслаўная царква ў тую ўжо пару была ў цяжкім палажэньні, бо каталіцтва з часу Люблінске вуніі стала гаспадарсьцьвенай вераю. Праваслаўнае духавенства было беднае, мала адукаванае і не магло змагацца з езуітамі. Вунія давала прывілеі вышэйшаму праваслаўнаму духавенству і раўняла праваслаўную веру з гаспадарсьцьвенай-каталіцкай, пад умовай прызнаньня папы галавою царквы.

Луцкі епіскап Кірыла Цярлецкі і ўладзімерскі Іпаці Пацей, надпісаўшы акт аб вуніі, паехалі з ім у Рым да папы. Папа даў сваё благаслаўленьне і згоду на вунію. Жыгімонт III выдаў дэкрэт аб вуніі. Але шмат праваслаўных было

абурана гэтым царкоўным злучэньнем. Тады быў скліканы сабор у Берасьці ў кастрычніку 1596 году. На гэным саборы прадстаўнікі царквы разьдзяліліся на дзьве партыі, і кожны сабор адбываўся асобна і вынасіў анафему адзін аднаму. Але ўсё-ж з таго часу пачалі лічыць вунію адбытым фактам. Вунія заместа згоды прынясла на Беларусь яшчэ большы разлад і барацьбу. Ня гледзячы на абяцанкі, уніяты ня былі роўнымі ў правох з лацінскім духавенствам.

З часам, аднак, вялікая часьць беларускага народу прыстала да вуніі. Як у 1839 г. вунія была скасавана, то часьць вуніятаў перайшла ў каталіцкую (лацінскую) веру, а часьць у праваслаўную.

Л. Г.—Ч.

# Паўлюк Бахрым—першы вядомы у нашай літэратуры пясьняр сялянскага роду.

Паўлюк Бахрым—селянін з Крошына, Слуцкага павету, Менскай губэрні. У 1828 годзе ён вучыўся разам з другімі мужыцкімі дзяцьмі ў школе ксяндза Магнушэўскага. Гэты кзёндз быў шчыры прыхільнік працоўнага народу, хацеў падняць людзей з голаду і цямноты і памагаў крошынцам проціў пана судзіцца за зямлю. Дзяцей ён вучыў чытаць, пісаць, лічыць, разумець катэхізм, апрача таго, даваў чытаць добрыя кніжкі. Хлопчык Бахрым надта спадабаў пісаць вершы, пераймаючы напісаныя ў кнізе. Многа вершаў з польскага пісьменніка Нарушэвіча, баек Эзопа ды чаго іншага ўмеў ён напамяць; таксама любіў сьпісываць усё, што пападалася пад рукі, ня

толькі друкаванае, але і рукапіснае. Так разьвівалася яго сьвядомасьць. Посьле, калі крошынскіх сялян засудзілі за „бунт“, а школу зачынілі, у вучня Бахрыма начальства знайшло вершыкі, каторыя здаліся яму вельмі шкоднымі і небясьпечнымі. Паліцыя забрала іх і шукала, ці няма яшчэ. Ксёндз Магнушеўскі на выпытах дужа хваліў Бахрыма, а ня ведаўшы, на што ў яго пытаюцца, казаў, што хлопчык умее напамяць значна болей сваіх вершыкаў, чымся ў яго адабралі запісаных. Князь Радзівіл даказаў, што вучні ў школе дэклямавалі нягожыя для сялянскіх дзяцей байкі і розныя вершы. Тады Магнушэўскага аддалі пад нагляд паліцыі, Паўлюка Бахрыма неўзабаве здалі ў маскалі, а многа сялян выслалі ў Сыбір. Добры ксёндз пажыў пасьля таго мала і памёр з гора, а якое было патым жыцьцё Паўлюка Бахрыма, ніхто вестак дагэтуль не сабраў. Кажуць, што ён з войска вярнуўся, жыў у Крошыне і памёр ў 1891 годзе.

Творы Паўлюка Бахрыма не захаваліся, апрача тых некалькіх, што пайшлі ў народ. Адзін сшыток яго „вольных“ вершыкаў узяў сабе сэнатар Навасільцаў ці прафэсар Пэлікан, каторыя прыяжджалі ў Крошын даведацца аб тым „бунце“ і вельмі дзівілісь на паэта-самародка, дэкляруючы навет паклапаціцца аб яго ўзгадаваньні. Есьць толькі адзін друкаваны вершык Бахрыма, гэта — „Заграй, заграй...“ Апрача таго, кажуць, ён здажыў „Гутарку Данілы з Сьцяпанам“ і „Размову пана з мужыком“, каторыя запісаны ад народа этнографамі.

„Заграй, заграй, хлопча малы“..., — лірычная песьня аб цяжкім жыцьці ў часе паншчыны. Бацьку песьняровага забілі кіямі, маці яго тужыць, сястра плача, а самаго яго сярдзіты крошынскі пан здаець у маскалі. Песьня пераймае народную творчасьць, але сьведчыць аб некато-

рым знаёмстве аўтора з кніжкаю. Напісана яна з запраўдным поэтычным натхненьнем і шчырым чуцьцём, ахоплена-ж далікатнасьцю засмучонага настрою. Спосаб думаньня — абразны, параўнаваньні і звароты мовы—народныя.

„Гутарка Данілы з Сьцяпанам“ па складу верша не падобна да разгледжанай песьні, але ўвесь яе тон і думкі лёгка нагадуюць бахрымаўскую творчасьць. „Гутарка“ была дужа пашырана, як рукапісны твор нявядовага аўторства. Магчыма, што Бахрым схаваў імя і не падпісаўся навет псэўданімам, баяўшыся паноў. Твор напісан перад вольніцай. Даніла з Сьцяпанам талкуюць аб тым, што паны ня хочучь, каб цар даваў вольніцу. Чуецца, што аўтор „Гутаркі“ сам мужык; ён глыбока адчуваець мужыцкую няволю, ненавідзіць паноў і вельмі жадаець скасаваньня прыгону. Але сьветагляд яго не распыраны кніжнай адукацыяй, думкі прастадушныя, патрэбнай для дзейнага адраджэньня нацыянальнай і соцыяльнай сьвядомасьці няма. Аўтор ня ведае таго, што цар такі самы злосьнік для народа, як і ўсякі пан, яшчэ навет горшы па сваей сіле.

З тэхнічнага боку „Гутарка“ і „Размова“ стаяць нізка. Відаць, пясьняр мала клапаціўся аб надворным хараство сваіх твораў, а ўсё стараньне пакладаў на пералічаньне соцыяльных злыдняў. Яно й ня дзіва, бо гэткая была пара, што такім якраз спосабам найлягчэй было прамовіць да мужыцкае душы. І творы Бахрыма пайшлі ў гушчу народа, дзе ня толькі пабуджалі беларускасьць, але надавалі ёй выразнага соцыяльнага выгляду. У гэтым галоўная літэратурнагістарычная заслуга Бахрыма. Ен —самы першы пісьменьнік з мужыкоў. Меў усе задаткі, каб зрабіцца беларускім Шаўчэнкам, адылі адсутнасьць адукацыі і жыцьцёвае гнібеньне тут перамаглі. Усёжткі сваім маласьвядомым і задушаным сло-

вам сказаў проці зьнявагі і ўціску і кінуў сьлед у гісторыі нацыянальнага і літэратурнага адраджэньня.

## З твораў Паўлюка Бахрыма.

* * *

Заграй, заграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы.
А я заграю у дуду,
Бо ў Крошыне жыць ня буду.
Бо ў Крошыне пан сярдзіты,—
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача...
Гдзе-ж ты пойдзеш, небарача?
Гдзе я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў сьвет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
Сьлёзна на вас абзірнуся.
Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасьліўшая ты-бы была!
Каб я каршуном радзіўся,
Я-бы без паноў абыўся:
У паншчыну-б не пагналі,
І ў маскалі не аддалі.
Мне пастушкам век ня быці
І ў маскалях трудна жыці,
А я і расьці баюся,
Гдзе-ж я, бедны, абярнуся?
Ой, кажане, кажане!
Што-ж ня сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

„Маладая Беларусь“, т. 3.

# Гутарка Даніла з Сьцяпанам.

Зышоўшысь Даніла сьвятым днём з Сьцяпанам,
Харошаю пагодаю селі пад парканам,
Ды й ну-ж талкавалі, ды й ну-ж гаварыці,
Што далей з нас будзе, як мы будзем жыці.
Гавораць на сьвеце, у голас талкуюць,
Ад ксяндзоў, ад жыдоў усе людзі чуюць,
Што вольнасьць нам, бедным, дасьць цар без адкладу,
Толькі што з панамі не дайдзема ладу.
Чаго адны хочуць, то другім ня міла.
Як чорт перад д'яблам, пражэцца іх сіла,
Цар ім патурае, а яны хітруюць,
Змовіўшысь з сабою, цару так талкуюць:
„Пане найясьнейшы, што з гэтага будзе,
Даўшы усім вольнасьць, кажан тое згудзе,
Што мужык бяз пана быць ніяк ня можа,
Паб'юцца, паколюцца, сьцеражы Ты, Божа;
Над ім трэба што дзень з кнутам стаць над каркам,
Розгі каб ляжалі возам за хвальваркам,
Гразы як ня будзе ад двара над хамам,
Заб'юцца, паколюцца на век вякоў амэн!
Мужык без гарэлкі перабыць ня можа,
П'яны ня уступіць, сьцеражы Ты, Божа,
А як стане біцца, кала яму трэба,
Хоць дзяцём у хаце няма куска хлеба.
А як пана мае, то мужык баіцца,
Хоць кары ня возьме, то хоць надрыжыцца,
Бо знае, што яго пан за ўсё скарае;
З хама ніц*) ня будзе, як пана ня мае".
От, браце, як яны падлыгаць умеюць,
Перад царам ў вочку на нас плесьці сьмеюць,
Ім гэта нясмашна костка ў горле стане,
Як мужык бяз пана вольнасьць дастане.
Што хочуць, то баюць, лгуць, як самі знаюць,

---

*) Нічога.

Верыць ім цар сьмела, яны ласку маюць,
А мы бедны, браце, церпім скрозь няволю,
Праклінаем жыцьце, сваю горку долю.
Праўда, што ня чулі дзяды ні айцове,
Каб над мужыкамі ня былі панове,
Ды цяпер на сьвеце ўсё іначай строяць,
Ужо на сярмягі ды сурдуты крояць.
Трэснуць яны, лопнуць, ужо іх ня будзе,
Бо ўжо рэчы сталі у цара у людзі:
Каб быў мужык волен, ды цар яго панам,
Ды каб ня сьмеў ніколі зваць пан яго хамам.
Будзе тое, браце, даждж ом, мой Сьцяпане,
Што пан на нас скажа: мой каханы пане.
Мы на іх ня глянем і шапкі ня здымем,
Хоць блізка нас будуць, ня кланяўшысь мінем.
Годзе і ураднік хванабэр'і строіць,
Каўбасы, пячэні на тарэлцы кроіць,
Перастане клікаць стоража, старожкі,
Каб давалі сухіх дрэвак пад трыножкі;
Вады, каб прынесла сьвежае з крыніцы,
Каб міскі і ложкі падала бяленькі.
Саганы і рондлі, як люстра, ясьненькі.
Вычвараць ня будзе за пражу і ніці,
Перастане тоўчы, папіхаць і біці,
Ня будуць ганяці вайты ад паўночы
На прыгон, заліўшы гарэлкаю вочы;
Пакіне нас лаяць за касьбу, гараньне,
За жніво, грабеньне і стагоў складаньне,
Што часам спазьніўся стаці да работы,
Што робіш памалу як-бы без ахвоты.
А як часам прыдзеш чаго папрасіці,
Нямаш чым гараці, нямаш чым касіці:
Будзь ласкаў, паночку, паратуй ў прыгодзе —
Аж ён крычыць, лае—нямаш канца, годзе.
А каня ці хлеба дастаць вельмі трудна:
Пан сам нездаровы, пані нешта нудна,
Прыдзі другім разам—а тымчасам ў полі

Ня зробіш у пору работы ніколі,
Бо і на прыгоне нямаш чым рабіці,
І ў дома на полі ні на парог выці;
Ідзі, хоць ты трэсьні, не паспагадаюць,
Ніякае ўвагі над намі ня маюць.
Дажджом рабі дома, пагода як блісьне,
Душа а ніводна у хаце ня пісьне,
На прыгон бяз шчоту з сярпом і з касою,
Валэ да гараньня, коні з бараною.
Ты—паліць вугольле, той рыбу лавіці,
Таму сянавації, кусты церабіці,
Той павязе водку, а той муку, збожжа—
Работ загадаюць, сьцеражы Ты, Божа!
Таму сена грабіць, таму стог складаці,
Таму тарпы класьці, таму падаваці —
Згінь, прападзі, ліха! Да чорта работы,
Дзіва, што ня стане часам і ахвоты!
Прыдзе восень, зараз: «Дай дзякла»!—ганяюць,
Грыбэ, яйцы, куры, талькі адбіраюць.
Магазын адсып, аддай да зярняці,
Бяз куска хлеба аставайся ў хаце,
І чынш і падаткі аддай без адкладу,
На рэкрута, пана—нямаш складкам ладу!
На стойкі, дарогі ганяюць ў нядзелі,
Каб яны ў жыцьці пацехі ня мелі!
Чаму на старожу прысьці апазьніўся?
Чаму ты сякеры, рыдля ўзяць забыўся?
Дзе твой мех, рэшата і сечка?
За што там такое з войтам была спрэчка?
Браварну старожу адбывай бяз шчоту,
Там і ў дзень і ў ночы ня скончыш работу!
А ў валоўні, як чорт у пекле, таўчыся,
Нямаш там спогадзі, ці плач, ці маліся,
Ці дождж, ці завея, ці мароз найбольшы,
Чым горкае надвор'е, то тым прыказ горшы.
Уставай да работы парою бяз спрэчкі,
Выцягнуць з-пад лавы, сьцягнуць цябе з печкі:

Ты йдзі малацiцi, ты у млын малоцi,
Картоплю садзiцi, ты iдзi палоцi,
Таму быдла пасьвiць, а таму гавечкi,
Ты да коп на варту, ты iдзi да грэчкi,
Ты ступай да коней, а ты за сьвiньнямi,
Малая да качак, больша за гусямi.
Як чорта пiхаюць, ўсюды слухаць трэба,
Часта нямаш калi зьесьцi куска хлеба,
Днём стравы нiколi цёплай не скаштуеш,
Палудзень кароткi, сапнуць няма часу,
Ад цiвуна, войта давольна крыку, галасу;
А ўраднiк, як чорт, сярдзiты i злосны,
Погляд быстры, строгi i голас даносны,
Як стане пасвойму лаяць i крычацi,
То душа i з целам мусiць раставацi;
А на злосьць як трапiм, то пачысьцiць зубы,
Схопiш аплявуху, аж кроў пойдзе з губы,
Чупрына ня пеўна, бо падскубе куса,
Паправiць бароду i падскубе вуса.
А што страху надасьць, а што надрыжышся,
Цi плач цi скач перад iм, цi як хоць малiся,
Нiчога то не паможа, чакаць канца мусiш,
Хоць праўда, аднак-жа, языка прыкусiш.
— Зараз каркi скруцяць! гэта урвецца,
Хванабэрства згiне, панства iх мiнецца.
Няхай дасьць Бог толькi вольнасьцi прыждацi,
Будуць паны самi сьлёзкi палыкацi;
На полi, дзе колiсь сох было як маку,—
Ня знайдуць загона i ральлi нi знаку,—
Усё ляжа адлогам, лазы будзе воўку,
Зьвяжуць паны скора бяз людзей галоўку;
А па сенажацях ня пойдзеш за лесам,
Бо хто-ж будзе касiць? Хiба ён сам з бесам!
Прыгон як урвецца i талакi ня стане,
Скончыцца адразу iхна панаваньне;
Тады яны хiба, што бяда, пазнаюць,
Бо, цяпер нiколi нам не спагадаюць:

Ідзі толькі, хаме! От і ўся гаворка!
З нашай працы грошы складаюць да ворка.
Дай нам Божа толькі скоранька прыждаці,
Каб маглі спакойна пасядзеці ў хаце,
Пана не баяцца і войта загаду,
Было-б у нас болей і добра і ладу.
Не адзін сказаў-бы: „Мой пане Сьцяпане,
Будзь ласкаў, сягоньня прыдзі на гараньне,
Заплачу, што хочаш, водкай пачастую,
А для тваіх дзетак гасьцінца дарую;
Калі ласка, заўтра падбяжы з касою,
Жонка, дочкі з серпам, а сын з бараною,
Наўперад грошы, бо мне раз плаціці,
Бо я цябе знаю, ня ўмееш круціці".
А ось калі ліха як вужа прыцісьне,
Не адзін застогне і не адзін пісьне,
Бо годзе над намі зьдзекавацца срога,
Прыдзе і на пана караньне ад Бога.
Яны нас глумілі, плакаць не давалі,
Вінен ці ня вінен, без канца каралі,
А цяпер ім самым тое дастанецца,
Што нам дасюль была, то на іх шчаўпецца.
Няхай дасьць Бог цару нашаму здароўя;
Няхай нашай долі скаштуюць панове;
Няхай яго радні Бог шчасьце гатуе,
Што ён нашых братоў вольнасьцю даруе.
А тым нашым паном, што нас вельмі дралі,
Даў-бы Бог, каб яны на сабе дазналі:
Галоднаму сыты спагадаць ня мусіць,
Пакуль чужой бяды сам у губе ня ўкусіць.
А ось тагды пазнаюць, па чаму хвунт ліха,
Як воўк пад лаваю, ня ўлежаць ціха,
Паскрабуць чупрыну, як ня стане хлеба,
Як Бог і цар схоча, мусіць так і трэба.
Можа-б болей бздырыў-бы Сьцяпану Даніла,
Але на пагібель войта накруціла,

Як стаў загад строіць, як пачаў крычаці,
Мусілі гутарку сваю перастаці.

„Lud Białoruski".
М. Федароўскага.

## Размова пана з мужыком пасьля прыгону.

— Як маешся, Сьцяпане?
— Аджыў, найясьнейшы пане!
— Чаму твая Дарота
Ня прыходзі до мне на работа?
Сушыць, грабіць пільне трэба,
Дам пенёндзы, дам і хлеба.
— Ужо панскі хлеб дакучыў.
Як пан нас добра мучыў:
Добра паны гандлявалі,
Слугі на сабакі мянялі!

Стуль-жа.

# Быт нашых прадзедаў.

## Будоўлі.

Нашы прадзеды будавалі свае хаты каля вазёр і рэк. Сяліліся досыць значнымі групамі па некалькі сем'яў. Харошых хат ў той даўны час ня ўмелі будаваць. Адзін гісторык, што бачыў, у якіх хатах жылі нашыя прадзеды, называе гэныя хаты „беднымі хацінкамі". Аднак, ня толькі беларусы жылі ў бедных хатах, але блізу што і ўсе іншыя народы таго часу. У беларускай хаце ня было вакон: сьвет праходзіў у хату цераз

дзірку ў сьцяне або ў страсе. Пасярод хаты стаяла печка бяз коміна, а дым выходзіў цераз дырку ў страсе. З іншых будынкаў нашыя прадзеды мелі сьвіран, гумно і хлеў для жывёлы. Тут стаяў і азярод.

## Выгляд і адзежа.

Старавечныя беларусы былі народам рослым і крэпкім, з сьветларусымі валасамі, з сінімі вачыма, з шырокім лобам. Мужчыны насілі бараду, жанчыны — даўгія валасы, заплеценыя ў косы. Адзежу выробляі з скур і шэрсьці дзікіх зьвяроў, а так сама авечае воўны і лёну. Умелі валіць сукно і ткаць палотны. Адзежа беларуса была белая.

## Чым займаліся нашы прадзеды?

З самых даўных часоў беларус быў земляробам. Зямлю ён любіў і працаваў над ёю з ахвотаю, але ў той старадаўны час працаваць над зямлёю было цяжэй: каб вырабіць поле, трэба было спачатку выкарчаваць і спаліць лес, узьняць цаліну і толькі тады сеяць. Сеялі тое, што і цяпер: жыта, авёс, ячмень, пшаніцу, грэчку, лён.

Беларусы разводзілі коні, рагатую жывёлу, авечкі, сьвіньні і свойскіх птушак. Паша для жывёлы была агульнай, тады як зямлю ўраблялі, падчас, кожны гаспадар па-асобку.

У той час было многа дзікіх зьвяроў, якія псавалі палі і паядалі гаспадарскую жывёлу. Гэта выклікала ў беларусаў патрэбу бараніць сябе ад убыткаў.

У барацьбе з дзікім зьверам беларус зрабіўся добрым паляўнічым. З кап'ём (дзідаю) і лукам ён сьмела йшоў на мядзьведзя, ваўка, дзіка, лася. Куніцу, ліса, бабра і птушак беларусы дабывалі болей капканамі і сілкамі.

У рэчках і вазёрах была рыба: шчупак, плотка, карась, сом, мянтуз і г. д. Беларусы лавілі іх сеткамі, брэднямі, білі восьцямі.

Нашы прадзеды былі добрымі зямцамі. Каля хаты, у полі або ў лесе на дрэве ставілі вульлі. З мёду ўмелі варыць моцны напітак — „мёд“. З воску з часам навучыліся рабіць сьвечкі.

Збожжа малолі ў жорнах, якія складаліся з двох круглых і гладкіх камянёў. Ніжэйшы камень ляжаў у скрыні на ножках; у верхнім пасярэдзіне была дзірка, куды сыпалі зерняты. Верхні камень круцілі, узяўшыся за ручку на ім. Гэта была цяжкая работа.

Пралі верацяном, бо прасьніцы яшчэ ня знали. Ткалі на кроснах. Пялі рукавіцы і панчохі. Пялі і вышывалі вельмі прыгожыя паясы і йстужкі. Усім гэтым заняты былі ўзімку дзяўчаты і замужкі, а мужчыны ўзімку рабілі шчыты, мячы, дзіды, стрэлы, патрэбныя дзеля вайны з суседзямі, у якіх аружжа было ня лепшае за беларускае.

## Сям'я.

З маладых гадоў бацькі прывучалі дзяцей да працы, сьцюжы, сырасьці, ветру. Узімку, прыкладам, дзеці хадзілі неабутымі. Прывыкшы да ўсяго, дзеці выраслі крэпкімі і выцяглымі людзьмі. Цяжкая праца ў полі ці на сенажаці ім была ні па чом. Бацька вучыў сыноў страляць з лука і валадаць мячом. Матка вучыла дачок прасьці, ткаць, вышываць і г. д. Сям'я жыла дружна. Бацька быў галавою сям'і, матка—сэрцам яе. Загадаў бацькі слухала ўся сям'я, і непакорных дзяцей бацька мог выгнаць з дому вон. Нашыя прадзеды былі людзьмі гасьціннымі і з гасьцём абходзіліся як найлепей, стараючыся яго накарміць і напаіць. Лічылася звычайным узяць у су-

седа, калі ў самаго ня было чым пачаставаць гасьця. На сваёй зямлі беларус лічыў абавязкам бараніць чужога. Па прыродзе беларусы былі дабрадушнымі.

## Курганы, гандаль і водныя дарогі.

Аб тым, як жылі нашы прадзеды, многа могуць сказаць курганы. Яны ў вялікім ліку раскіданы па ўсім прасторы Беларусі. Курганы насыпаліся над магілаю памершага багатага ці ведамага чалавека. Цяпер шмат курганоў ужо раскапана і ў іх знайдзена многа розных рэчаў, паложаных па старадаўнаму звычаю ў магілу нябожчыка, бо лічылі, што і на тым сьвеце памершы і есьць і п'е і займаецца тымі-ж справамі, што й пры жыцьці. Сярод рэчаў, якія знойдзены ў курганох, ёсьць: шалькі з каменьнем для вагі, гаршкі, місы, рознае аружжа, косьці жывёлы і рыб, тканіна, бронзавыя, срэбныя і залатыя пярсьцёнкі, падвескі, бранзалеты, дыядэмы і інш. рэчы, вельмі прыгожыя каралі. Часьць гэтых рэчаў была прывознай, а часьць—выраблялася на месьце нашымі прадзедамі, якія, відаць, многае што ўмелі рабіць, і рабілі добра.

Прывознымі рэчамі былі найболей прадметы раскошы і чужаземныя манеты. Гэтых апошніх у курганох знойдзена вельмі многа. Тут ёсьць і грэцкія, і арабскія, і індускія, і балгарскія, і варажскія, і нямецкія, і рымскія, і навет кітайскія манэты. Аб чым-жа яны сьведчуць! Якою дарогаю яны лучылі да нас? Адказ на гэта зусім просты. Нашыя прадзеды вялі гандаль блізу з усім сьветам. Чужаземцам яны прадавалі свае тавары, як сыр'ё, так і вырабы, ад чужаземцаў-жа куплялі іх тавары. Тавары або мянялі на тавар-жа, або прадавалі за грошы. Такім парадкам у нашых

прадзедаў маглі быць манеты ўсіх краёў, з якімі вёўся гандаль. Для разьвіцьця гандлю ў нашай старонцы былі ў той час вельмі выгодныя варункі. Цераз Беларусь праходзілі дарогі, па якіх ішлі тавары з Заходу на Усход — з Эўропы ў Азію і наадварот. Гэтымі дарогамі, па якіх амаль ні выключна вазілі тавары, былі рэкі, вазёры і моры, бо на сухапуцьці перашкаджалі лясы і была небясьпека ад разбойнікаў. Па Дняпру, Прыпяці, Нёману, Дзьвіне і іх прытоках ішоў жывы рух тавараў, пагружаных на судны. Летапісец Несьцер у сваёй знамянітай летапісі называе гэтую водную дарогу, якая праходзіла цераз Беларусь і зьвязвала Эўропу з Азіяй, „вялікім водным шляхам з Варагаў (г. знач. Скандынавіі) у Грэцыю". Варагі і Грэкі былі найлепшымі купцамі таго часу, у руках якіх быў гандаль амаль ні ўсяго прасьвету. Дык няма дзіва, што нашы прадзеды, пражываючы на вялікай воднай дарозе таго часу, мелі магчымасьць ня толькі гандляваць з усім сьветам, але і адчуваць на сабе ўплывы як заходняй так і ўсходняй культуры.

**М. Кахановіч.**

---

# СЛАЎНЫЯ УГОДКІ.

14 верасьня (1 сенцябра), калі выйшаў першы нумар „Беларускіх Ведамасьцей", споўнілася роўна 15 гадоў з дня выхаду ў сьвет „Нашае Долі".

14 *верасьня (1 сенцябра)* 1906 *года выйшаў у Вільні першы нумар першай легаль-*

*най (не падпольнай) беларускай газеты „Наша Доля“.*

Гэты дзень лічыцца сьвятам нашага адраджэньня і быў ён важным пунктам у гісторыі нашае літэратуры і культуры наагул.

Пісала ў „Нашай Долі“ рэвалюцыянэрка „Цётка“ (А. Пашкевіч), памёршая 5 лютага 1916 года, пісалі яшчэ: стары пісьменьнік Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), Дзядзька Пранук (Ф. Умястоўскі), Вацюк Тройца (В. Іваноўскі), а з маладзейшых—наш вялікі сучасны поэт і пісьменьнік Якуб Колас і найбольшы цяперашні публіцыст, заслужоны дзеяч Антон Навіна (Антон Луцкевіч) і інш.

Апроч таго, главным пачынальнікам і духоўнаю падпораю ў гэтай справе быў таксама нябожчык Іван Луцкевіч (1881—1919), правадыр нашага руху праз увесь пазьнейшы час.

Нумары „Нашай Долі“ зрабіліся цяпер дарагой бібліографічнай рэдкасьцю. Усяго выйшла 6 нумароў, з каторых ажно 5 падпала пад паліцэйскую забарону.

Вестка аб легальнай газэце, пісанай пабеларуску, пракацілася па ўсёй Беларусі, як першы веснавы гром. Людзі плакалі ад радаснае навіны і ад горкіх успамінаў.

А на вуліцах Вільні газэту бралі нарасхват, чыталі разам вялікімі грудамі, плацілі часам нязвычайныя грошы.

Калі-ж газэта дайшла ў правінцыю, сяляне сталі прысылаць у рэдакцыю дужа многа пісьмаў з гарачымі, натхненымі і радаснымі словамі абуджаных сыноў пад'яромнае бацькаўшчыны.

---

# АБ „НАШАЙ ДОЛІ“.

Гэта было летам 1906 году, калі я прышоў да пракананьня, што мінуў беспаваротна час Колядных і Вялікодных пісанак, якія мы ў гуртках беларускіх у Маскве і Пецярбурзе друкавалі на гэктографах у некалькіх дзесятках экзэмпляраў. Настаў час, калі беларускае друкаванае слова павінна шырокай ракой ліцца ў нашу цёмную бяздольную вёску і гукамі роднай мовы будзіць людзей да лепшага жыцьця і сьвет пазнаньня нясьці ў курныя мужыцкія хаты.

Я ведаў, што ёсьць людзі, якія не пашкадуюць працы для гэнай справы; я знаў, што вёска прыхільна прывітае першую ластаўку беларускай вясны, але ня было толькі аднаго—грошы, і дзе іх дастаць, я няведаў. Вось калі гэтак я насіўся з думкаю аб грошах—яны самі прышлі да мяне. Неяк яшчэ ў гімназіі я пазнаёміўся з Янам Тукеркесам. Бацькі яго, хрышчоныя жыды, мелі ў Вільні хатку на Новым Сьвеце, недалёчка ад таго мейсца, дзе жыў і я. Гэтак дзякуючы суседзтву завязалася знаёмасьць у нас. У тым часе, аб якім ідзе гутарка, бацька Тукеркеса памёр, пакінуўшы пану Яну хатку і некалькі тысячаў грашыма. Пачуўшы грошы ў кішані, пан Ян закруціўся. Малады прыгожы дзяцюк загуляў, і грошы пачалі ўцякаць. Разглядзеўся пан Ян, што

гэтак доўга не працягнеш, і надумаў на астаткі бацькаўскага добра пачаць які інтэрас. Гэткім добрым інтарэсам здалася ему расейская вечаровая газета, і ведаючы, што я знаюся па газетнай справе, ён прышоў на раду да мяне. Разгаварыліся. Што-ж, кажу, браточку, шукаць табе лепшага інтарэсу, як выдавецтва беларускай газэты? І людзям карысьць будзе і грошы заробіш і часам яшчэ ў гісторыю пападзеш. Слова за словам, і Тутеркес праканаўся, што беларуская газэта пойдзе і, калі ня дасьць барыша, то скупіць сябе. „Добра, згадзіўся пан Ян: будзем выдаваць,



Цётка.

тоькі глядзі, каб да часу ў нейкую гісторыю не папасьці".

Тутка я пазнаёміў Тутеркеса з братамі Луц-

кевічамі і Алёізай Пашкевічанкай, што вядома была у беларускіх гуртках пад прозьвішчам Цёткі. Луцкевічы і Цётка з ахвотай абяцаліся памагчы і зараз-жа з усей энэргіяй прыняліся да работы. Хутка Ян Тукеркес адтрымаў дазваленьне на выдавецтва „Нашае Долі“. Фактычным і афіцыяльным рэдактарам меўся быць я, але паводлуг закону мне не хапіла гадоў (я меў толькі 23, а трэба было мецi ня меней 24) для права падпісываньня газэты. Гэткім чынам Ян Тукеркес зрабіўся выдаўцом і падпісываў газэту, як рэдактар, хаця паміж сабою мы згаварыліся, што ўсю рэдактарскую працу буду весьці я. Антон Луцкевіч і Цётка увайшлі у рэдактарскую калегію.

Наладзіўшы гэтак справу, я паехаў да маёнтку Лябёдкі, да Вацлава Іваноўскага, каб адпачыць трошкі і, паслухаўшы гоману родных лясоў, зьвярнуцца да Вільні толькі тады, калі ўсе тэхнічныя справы будуць скончаны і трэба будзе выпушчаць першы нумар. Праз некалькі часу я адтрымаў ад Тукеркеса ліст, у якім ён мне пісаў, каб я хутчэй прыяжджаў да Вільні, бо сам ён ня можа паладзіць з Луцкевічамі. Сягоньня не памятаю, з чаго у іх пайшла сварка: досьць таго, што прыехаўшы я усіх згадзіў і праз некі тыдзень вышаў першы нумар „Нашае Долі“. Калі а гадзіне 12-ай са сьвяжусенькім першым нумарам „Н Д.“ я вышаў з друкарні, у якой прасядзеў бяз мала ўвесь дзень, робячы карэктуру і соткі разоў прачытываючы тыя словы, што хутка палятуць да родных вёсак, сэрца ў мяне стукала ад радасьці і шчасьця, а можа і ад трывогі разам за будучыну нашага дарагога дзіцяці. Прышоўшы ў рэдакцыю на Віленскай вуліцы, я знашоў там усю кампанію. Быў тут Ян Тукеркес, і Антон і Ян Луцкевічы, і Цётка, і Станіслаў Сымановіч— экспэдытар газэты, здаецца, што праездам з Мен-

ску быў і Трэпка. Усе з нецярпеньнем чакалі майго прыходу, і газэту амаль не парвалі, выдзіраючы з рук адзін ў аднаго.



Іван Луцкевіч.

Ня ведаю, скуль узялася гарэлка і закуска, і наліўшы чаркі, ня гледзячы на косыя пагляды Цёткі, якая не цярпела п'ючай кампаніі, мы духам асушылі іх, за будучыну бацькаўшчыны.

Гэтак да познай ночы мы гулялі на хрэсьбінах „Нашае Долі". Пад уплывам радасьці, якую нямінуча нясе з сабою спаўненьне гадаваных цэлымі гадамі думак, ніхто з нас пэўна не прадстаўляў сабе, што гэты момант — момант гіста-

рычны, і зерне, насеянае сягоньня, дасьць такі буйныураджай. Мы ня былі аналітыкамі і, прыступаючы да працы над стварэньнем газэты, кіраваліся вя гэтулькі выкладкамі розуму, кольки наказам маладых сэрцаў і вялікай любоўю да цёмнага нашага брата. Мы верылі, што цемру нашай вёскі можа асьвяціць толькі слова ў народнай мове беларуса, што наміма гэтага шляху беларусу няма іншае дарогі да сьвету і долі.

„Нашая Доля" нарабіла шуму. Першы нумар у ліку 10.000 экзэмпляраў (5000 лацінкай і 5000 кірыліцай) разышоўся амаль увесь. Прадажа газэты ў Вільні йшла так бойка, што газэтчыкі раз-за-разам прыходзілі ў рэдакцыю па новую порцыю, распрадаўшы ў працягу некалькіх мінут узятыя імі пробныя нумары. У Менску і паветах газэта так сама пашла добра. Хутка аб'явіліся падпісчыкі і беларускія пісьменьнікі. Адным з першых супрацоўнікаў, што пачалі прысылаць свае творы у „Н, Д.", былі Ядвігін Ш., Якуб Колас і др. Другі нумар газэты грамадзянства спаткала так сама прыхільна, як і першы. Газэтчыкі за некалькі дзён прад выхадам яго прыносілі ў рэдакцыю грошы, каб запясьпечыць сябе загадзя адтрыманьнем газэты. Падпісчыкаў з кожным днём прыбывала усё болей і болей, рэдакцыя з усіх канцоў Беларусі адтрымлівала шмат лістоў, у каторых іх аўторы горача віталі „Нашу Долю". З кожным днём паміж газэтай і беларускім грамадзянствам завязываўся цясьнейшы вузел, і папулярнасьць газэты расла з кожным днём. Аб папулярнасьці „Н. Д." сьведчыць, паміж іншым, той факт, што некаторыя стацьці вывучываліся чытачамі на памяць. Я сам быў сьведкай, як адзін работнік у Вільні пераказаваў другому ў памяці ўсю стацьцю пад загалоўкам „Старое Лякарства".

Ня меншай папулярнасьцяй карысталіся і вершы, друкаваныя у „Нашай Долі" Гэная вялікая папулярносьць „Н. Д." зьвярнула на сябе увагу царскіх чыноўнікаў, і дзеля таго, што газэта, каторая бязьлітасна крытыкавала тагачасны лад і нікчэмную палітыку мясцовых расейскіх валадароў,—ім не падабалася, яны аб'явілі вайну „Н. Д.", і на газэту пасыпаліся кары. 3-і нумар „Н. Д." ўжо сканфіскавалі, так што толькі некалькі дзесяткаў экзэмпляраў яе ўбачылі сьвет Божы. З тэй пары бяз мала кожны нумар „Н.Д." спатыкала або канфіската, або штраф. Газэта—такі трывала. Навучаныя горкай доляй, мы часьць выданьня адразу з друкарні вывазілі ў прыватныя кватэры і толькі другую частку прывазілі ў друкарню, дзе на яе ўжо чакала паліцыя. Схаваныя гэткім спосабам нумары мы прадавалі потым па павялічанай цане, так што некалькі часу ня гледзячы на канфіскацыю маглі-такі зьвясьці канцы з канцамі. Але пад канец і паліцыя дагадалася. Яна пачала канфіскаваць газэту ў самай друкарні і, нарэшце, на Яна Тукеркеса налажылі штраф і прыцягнулі яго да суду. А побач з гэтым, баючысь уплыву „Нашае Долі", мясцовыя ўлады выдалі цыркуляр, у якім гаварылася, каб усе нумары „Н. Д." канфіскаваць, як газэту „исключительно вреднаго направленія", так гаварылася ў цыркуляры. Стала ясна, што пры гэткіх варунках газэту выдаваць не магчыма. Папаўшы ў „гісторыю", Ян Тукеркес адмовіўся даваць грошы. На пасяджэньні рэдактарскай калегіі, калі разглядалася пытаньне аб тым, як быць далей, Ян Луцкевіч абяцаўся дастаць грошы, і гэтак мы пастанавілі газэту выдаваць далей, пераняніўшы трошкі тон.

Але з перамены тону ня выйшла нічога. Пробны нумар, у якім мы зрабіліся ціхімі і спа-

коймымі, так сама быў сканфіскаваны. Чыноўнікі прычапіліся да слова „ваявіць“ у ваднымі з вершыкаў, дзе яно азначала звычайную барацьбу, змаганьне,—растлумачыўшы яго, як прызыў да паўстаньня з аружжам у руках. Тады мне стала ясна, што „Нашай Долі“ ужо падпісаны прыгавар і дні яе зьлічаны і ніякая перамена тону нічога ўжо не паможаць. І дзеля таго, ня гледзячы на намовы братоў Луцкевічаў, я зрабіў заяву у газэтах, што „Наша Доля“ сваё істнаваньне спыняе. Гэтак на 7-м, здаецца, нумары, задушаная рукамі расейскага ката, скончыла сваё істнаваньне „дзіця свабоды“, першая беларуская часопісь „Наша Доля“.

Дзядзька Пранук.

## Родны край.

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць ў сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе ўвясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?..
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыей воляю, рукой

Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Ды ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі,
І пуцінаю няроўнай
Бяжыцё ў далячыню—
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну...
Край мой родны! Дзе у сьвеце
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так поруч з сьмецьцем



Я. Колас.

Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе-бы об руку з галечай
Расьцьвіцеў багацьця цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?..

Скрозь вяночкі дрэў вясёла,
Над мястэчкам ці сялом,
Божы цэрквы і касьцёлы
Узносяць вежы к небясом.

Брацьця мае беларусы!
У страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць сам Бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў.

Тут схадзіліся ўсе плямёны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць
І самых нас ўзяць ў няволю,
Путы зьдзеку налажыць,
Кінуць ў цяжкую патолю,
Аб нас памяць ўсю замыць.

І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў,
І маскаль тут самачынна
Гвалт пад намі утварыў,
І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў;
І на нашых станавішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Узмацавалася Масква.

Толькі-ж, брацьця, край ня згінуў,
Не пагнуўся яго стан,
І із нас душы ня вынуў
Ні маскаль, ні польскі пан.
Гэй, суседзі, нашы брацьця!
Ня згубілі мы свой шлях,
Не ўламала нас няшчасьце,
Не сагнуў нас жыцьця гмах.

Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы—шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць.

Я. Колас.



# З літэратурнай хрыстаматыі.

## З перапіскі невядомага беларускага аўтора.

(Ліст пісаны 11 лютага 1564 г.)

*Аб польскіх замахах на незалежнасьць Літоускага гаспадарства.* Панове Ляхове дівнымі а розными претекстамі хотелі, жебы Літву у кабалу записалі і у вечную неволю собе нас' взялі; наперве́й, одное ляскі, одное печаті, одного скарбу, одное канцеляреі допіралися; потом', кгды того давесті не моглі, тогды предься, жебы всі тые станове і врядникі Літовскіе пісалися «маршалок' земскій коруны Польское у веліком' князьстве Літовском», потомуж' і іные всі врядникі Літовскіе, а король жебы ся пісал' «король Польскій і і земель князьства Літовского», чого кгды теж, довесті не моглі, тогды предься то нам' отнімають, чого ім' Боже не поможі, абы зараз' в' Польші на велікое князство подношенье было, а в' Літве жебы ніколі на князство подношенье не было. Потомуж' і о соймы, абы соймы вальные через' то в' Літве не былі, только спольные з' німі на граніцах'; чого панове послове наші дай пане Боже, абы боронілі, якож' есть і надея в Бозе, штож' і оборонят'...

**претекстамі**—пратэкстамі, прычынамі, падходамі
**жебы**—каб
ляскі—дзяржаўнага кія, скіпетру
скарбу—фінансаў, грошы
канцелярэі—дзяржаўнага дзелаводзтва
кгды—калі
предься—перад гэтым, спачатку
подношенье—каранацыя
спольные—супольныя, сумесныя

---

# Восень.

Як ня любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны,—слаўны тон.
І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён...
Як ня любіць мне восень залатую,
Калі на ніву зжатую, пустую
Кладзецца у начы, як малако, туман
І павучыньня шмат на хмызьняку палян...
Як ня любіць мне восень залатую,
Як ня любіць мне частку года тую,
Калі я веру ўсім, калі душа гарыць
І хочацца ўвесь час, хоць сумаваць, а жыць.
1921. Натальля Арсеньнева.

---

# Самае кароткае апавяданьне.

Убогая хата, сягоньня падмеценая і цёплая.

На левай ад дзьвярэй лаўцы, вузкай — як звычайна, ляжыць нябожчык-мужчына. З рэдкай бародкай рудымі жмуткамі; склычанымі дзікімі валасінкамі,таксама жоўта-рудымі—на вуглох сашчэмленага, сіняватага роту. Худы, жоўты,

у шэранькім жупане, белых альняныхштанох і ў новых лапцях. Ня дужа даўгі, хоць ляжыць I рукі на грудзёх сашчэцлены.

На палу сядзяць у сьвітках дзьве старыя бабы і маўчаць. Я—за сталом над псалтыром шапчу і паглядаю з-пад ілба.

Жонка над нябожчыкам выець і прыгаварывае. Болей нікога ў хаце.

А мой жа ты сакалочак,
А мой-жа ты галубочак!
Ты мяне любіў
I я цябе любіла,
А сьмерць нас разлучыла...
А што-ж мне рабіць,
А што-ж мне рабіць?...

Гарэлкі па беднасьці няма, і хаўтуры нудныя. Нудна бабам, нудна й мне. Навет жонка якбы нудна вылічае:

Ты мяне любіў
I я цябе любіла,
А сьмерць нас разлучыла...

Добра, што ў іх дзяцей няма: усе паўміралі.

Максім Гарэцкі.

24IX—1921г.



# Статут Таварыства Беларускае Школы.

1. Назоў, мэта і месца быцьця Таварыства.

§ 1. Таварыства завецца „Таварыства Беларускае школы" і мае мэту пашыраць і памагаць асьвеце ў беларускім нацыянальным, людзкім і хрысьціянскім дусе.

§ 2. Таварыства стаіць вонках усіх палітычных партый і кірункаў; адзінай яго задачаю ё разьвіцьцё беларускіх школ і беларускае асьветы наагул.

§ 3. Дзеля правядзеньня ў жыцьцё мэты, азначанае ў § 1, Таварыства, паміж іншым, мае права: 1) закладаць, удзержываць і паддзержываць: а) народныя школы, б) курсы для вырослых нянісьменных, в) прыпынкі, г) вучыцельскія сэмінарыі, школы ўзгадавацелек, народныя чытальні і кніжніцы (бібліатэкі) д) школы вышэйшыя і сярэднія ўсялякіх тыпаў;

2) закладаць народныя дамы дзеля асьветы і таварыскае гульні.

3) арганізаваць лекцыі і курсы;

4) выдаваць і пашыраць беларускія школьныя кнігі (падручнікі), навуковыя, пэдагогічныя і народныя газэты;

5) даваць вучням і вучаніцам стыпэндыі, падмогі і рознаю навуковую помач;

6) рабіць праекты будоўлі школ і школьных ўпарадкаваньняў і мае нагляд над іх выпаўненьнем;

7) абвяшчае конкурсы, патрэбныя дзеля дапяцьця мэтаў „Таварыства Беларускае Школы“.

§ 4. Месца быцьця Цэнтральнае Рады Таварыства ё места Вільня.

§ 5. Таварыства ё юрыдычнаю асобаю, можа мець розную рухомую і ляжачую маемасьць, а гэтым самым купляць і прадаваць ляжачую маемасьць

## 2. Маемасьць Таварыства.

§ 6. Маемасьць Таварыства складаецца:

1) з месячных складчын сяброў (сяброваак),

2) $1^1/_2$ % адлічаю месячнага заробку сяброў (сяброваак):

3) з самахвотных ахвяр;

4) з дараў і запісаў;

5) з даходаў з курсаў, лекцыяў і навуковых гутарак;

6) з працэнтаў ад зялезнага капіталу;

7) з іншых непрадбачаных прыходаў.

§ 7. Зялезны капітал складаецца:

1) з скарбаў адумысьля на гэта ахвяраваных;

2) з скарбаў, што асыгновуе на гэта Агульная Вялікая Зборка.

§ 8. Рада Таварыства вядзе рахунковасьць паводлуг правіл права і звычаяў.

## 3. Правы і абавязкі Сяброў.

§ 9. Сябрамі Таварыства могуць быць як фізычныя асобы бяз розьніцы полу, так і асобы юрыдычныя і ўстановы.

§ 10. Сябры Таварыства дзеляцца на памагаючых, запраўдных і пачэсных.

Сябрам памагаючым можа быць кожная фізычная і юрыдычная асоба, або таксама група людзей, што выплачуе на мэты Таварыства прынамся пяць (5) марак у месяц.

Сябрам запраўдным можа быць кожная фізычная і юрыдычная асоба, або таксама група людзей, што выплачуе на мэты Таварыства 1½ % свайго месячнага заробку.

Сяброў пачэсных назначае Агульная Вялікая Зборка на прадстаўленьне Цэнтральнае Беларускае Школьнае Рады, як прызнаньне асаблівых заслуг на ніве беларускае асьветы.

Увага: Беларускія вучыцялі (кі) Сябры Беларускага Вучыцельскага Саюзу, калі ўзносяць у свой саюз 1½ % свайго месячнага заробку, прымаюцца ў Сябры „Беларускае Школы" бяз ніякіх складчын і адлічак.

§ 11. Запраўдныя сябры таварыства маюць

права прымаць учасьце ў дзейнасьцях гуртка, да якога належаць і галасаваць на зборках гэтага гуртка, прадстаўляць і паддзержаваць на зборках гэтага Гуртка ўсе прапанаваньні, што скіраваны да правядзеньня ў жыцьцё мэтаў Таварыства ў межах дазволеных уставам, абіраць і быць абранымі.

Пачэсныя Сябры маюць права прымаць учасьце ў Агульнай Вялікай Зборцы, калі залічаны да якога Гуртка; карыстаюць з правоў запраўдных Сяброў, без абавязку плаціць % адлічку.

§ 12. Сябра можа заўсёды выступіць з Таварыства, адылі абавязаны наказаць аб гэтым пісьменна Радзе Гуртка. Сябра, што ня выплаціў месячнае сяброўскае складчыны, або месячнае % адлічкі, можа быць выкасаваны з ліку Сяброў Т-ва на пастанове Рады Гуртка, калі ня гледзячы на пісьменны спамінак належных грошай не аддае або калі яго месца быцьце няведама. Выступленьне, або выкасаваньне, з ліку Сяброў не аслабаняе выступаючага або выкасаванага ад павіннасьці заплаціць складчыны або % адлічку за той месяц, у якім захацеў выступіць або быў выкасаваны. Таксама ён павінен аддаць усе ранейшыя даўгі.

§ 13. На прапанаваньне Рады Гуртка можа Цэнтральная Школьная Рада паставіць выключыць Сябру, калі ён шкодзіць Таварыству, або зробіць паступак проці грамадзянскага гонару.

## 4. Гурткі і Акружныя Школьныя Рады.

§ 14. Гурток арганізуецца дзеля правядзеньня ў жыцьцё аднаго або болей заданьняў, нацемленых у ўставе Таварыства.

Гурток можа арганізавацца на аснове гэтага статуту ў кожнай мясцовасьці, у якой захоча арганізаваць Гурток прынамся 10 чалавек, як Сяброў запраўдных, калі акружная Школьная Рада прыз-

нае патрэбным арганізаваць Гурток. На чале кожнага Гуртка стаіць Рада, якую абірае агульная Зборка Сяброў Гуртка.

§ 15. Гурткі злучаны ў Вокругі, якіх лічба і прастор дзейнасьці па прадстаўленьню Гурткоў азначае Цэнтральная Школьная Рада.

На чале кожнага Вокругу ё Акружная Школьная Рада, якую абірае Акружная Зборка, што складаецца з дэлегатаў усіх Гурткоў данага Вокругу.

§ 16. Агульныя Вялікія Зборкі ўсіх Гурткоў і Вокругаў згукаваюць Рады тых-жа Гурткоў і Вокругаў—звычайныя раз у год, надзвычайныя — у меру патрэбы. Арганізацыю Гурткоў і Вокругаў, межы іх компэтэнцыі ды спосаб зносін з Цэнтральнаю Школьнаю Радаю азначыць інструкцыя, зацьверджаная Агульнаю Вялікаю Зборкаю Таварыства або з паўнамоцча Агульнае Вялікае Зборкі Цэнтральная Школьная Рада разам з Нагляднаю Радаю

## 5. Цэнтральная Школьная Рада.

§ 17. Цэнтральная Школьная Рада складаецца з 7—12 Сяброў, якіх абірае Агульная Вялікая Зборка на тры гады.

Апрача гэтага, Агульная Вялікая Зборка абірае 4 заступнікаў, якія пераймаюць абавязкі Сяброў Рады, калі Сябры выступяць да року, або ня могуць пераз даўжэйшы час спаўняць сваіх абавязкаў.

§ 18. Сябры Цэнтральнае Школьнае Рады абіраюць з паміж сябе на год аднаго Старшыню, двух яго Заступнікаў, двух пісараў, Скарбніка і яго Заступніка.

§ 19. Што год выступае чатырох Сяброў Рады, першыя два гады, кідаючы на жэрабя, а да-

лей паводле старшынства выбараў. Выступаючыя Сябры Цэнтральнае Рады могуць быць ізноў выбраны.

§ 20. Да компэтэнцыі Цэнтральнае Рады належыць:

а) загадываньне маемасьцяю Таварыства;

б) купляньне і прадаваньне ляжачае маемасьці працэнтных папер і розных рухомых маемасьцей.

в) прыймо дароў і запасаў умоўных і бязумоўных.

г) рабіць розныя ўмовы і даваць усялякага роду паўнамоччы, а паміж іншым і весьці судовыя справы;

д) рабіць годнія справаздачы і буджэты;

е) кіраваць усялякімі справамі Таварыства на аснове гэтага ўставу ў межах компэтэнцыі, дадзенае Агульнаю Вялікаю Зборкаю;

ж) прыгатаваньне інструкцыяў і рэгулямінаў для Цэнтральнае Рады.

§ 21. Рада можа тварыць асобныя аддзелы для паасобных спраў паводле інструкцыі, зацьверджанае Нагляднаю Радаю.

§ 22. Паседжаньні Цэнтральнае Рады бываюць у меру патрэбы, а прынамся двойчы ў месяц.

Дзеля важнасьці пастаноў патрэбна быцьцё Старшыні або яго Заступніка і прынамся 6 Сяброў Рады.

Пастановы прымаюцца простай большасьцяй галасоў, пры роўнасьці галасоў пераважуе голас Старшыні.

§ 23. Старшыня або яго Заступнік прадстаўляе Таварыства на вонкі і разам з адным пісарам падпісуе ад імя Таварыства ўсе паперы і дакумэнты.

Чэкі, загады выплатаў падпісуе Старшыня і Скарбнік Цэнтральнае Рады.

## 6. Наглядная Рада.

§ 24. Наглядная Рада складаецца з дзесяцёх Сяброў, якіх абірае Агульная Вялікая Зборка.

Сябры Рады абіраюцца на тры гады. Пераз два гады выступае па трох, а ў трэцім годзе 4 Сяброў; першыя два гады кідаючы на жэрабя, а далей паводле старшынства.

Выступаючыя Сябры Наглядные Рады могуць быць узноў выбраны.

§ 25. Наглядная Рада:

а) рупіцца аб правядзеньні ў жыцьцё заданьняў Таварыства Беларускае школы згодна § 1 і 2 гэтага ўставу і кантралюе згоднасьць дзеяльнасьці Цэнтральнае Рады ды ўсіх іншых органаў Таварыства з правіламі статуту, рэгулямінаў і інстукцыяў;

б) правярае касу Цэнтральнае Рады прынамся раз у год;

в) мае права пераглядаць кніжкі і пратаколы паседжаньняў Цэнтральнае Рады і іншых органаў Таварыства;

г) мае права дамагацца, каб Цэнтральная Рада згукала Агульную Вялікую Зборку і пастанавіла на дзеняшнім парадку справы і праекты пададзеныя Радаю.

д) Мае права задзержаць кожную пастанову ўладаў Таварыства, супярэчную з прынцыповымі правіламі гэтага ўставу або заданьнямі Таварыства, дамагаючыся адначасна згукаць Агульную Вялікую Зборку дзеля астатняй пастановы ў спорнай справе,

е) зацьвярджае рэгулямін і інструкцыі, аб якіх гутарка ў § 16 і 21 гэтага стутуту;

ж) прадстаўляе Агульнай Вялікай Зборцы годнюю справаздачу з свае дзейнасьці і свае праекты.

з) апрача гэтага Сябры Нагляднае Рады могуць з дарадчым голасам прымаць учасьце ў зборках Цэнтральнае Рады і ўсіх органаў Таварыства;

§ 26. Наглядная Рада можа назначыць з паміж сябе для рэвізыяў, аб якіх гутарка ў § 25.

§ 27. Наглядная Рада выбірае з паміж сваіх Сяброў на адзін год Старшыню, 2-х віцэ - Старшыняў і 2-х пісароў.

§ 28. Паседжаньні Нагляднае Рады бываюць у меру патрэбы, а прынамся 4 разы ў год.

Дзеяя важнасьці пастаноў Нагляднае Рады патрэбна быцьцё прынамся шасьцёх Сяброў Рады. ў тым ліку Старшыні або аднаго з віцэ-Старшыняў.

Пастановы прымаюцца простай вялікшасьцяй галасоў.

Пры роўнасьці ліку галасоў пераважае голас Старшыні.

## 7. Агульная Вялікая Зборка.

§ 29. Агульныя Вялікія Зборкі бываюць звычайныя і надзвычайныя. Звычайныя Зборкі згукавае Цэнтральная Школьная Рада ў Вільні.

§ 30. Надзвычайныя Зборкі згукавае Цэнтральная Школьная Рада па сваёй ініцыятыве, або па дамаганьню Нагляднае Рады, або, на апошку, на дамаганьня прынамся 1/4 агульнага ліку Акружных Школьных Радаў.

Цэнтральная Школьная Рада мае абавязак згукаць Агульную Вялікую Зборку не пазьней як за тры тыдні. дастаўшы пісьменнае дамаганьне.

§ 31. Аб дні і месцы Агульнае Вялікае Зборкі Цэнтральная Школьная Рада апавяшчае ў беларускіх газэтах, наказуе пісьменна прынамся за два тыдні перад днём Зборкі.

§ 32. Агульная Вялікая Зборка складаецца:

а) з Сяброў Наглядная Рады,

б) з Сяброў Цэнтральнае Школьнае Рады і іх заступнікаў.

в) з прэзыдыумаў заўсёдных Цэнтральнае Школьнае Рады, ня болей як па тры чалавекі з кожнага аддзелу;

г) з дэлегатаў Акружных Школьных Рад па двух ад кожнае Рады;

д) з дэлегатаў Гурткоў па двух ад кожнага Вокругу;

е) з пачэсных Сяброў.

Асобы, што маюць права прымаць учасьце ў Агульных Вялікіх Зборках, ня могуць перадаваць гэтага права іншым.

§ 33. Агульная Вялікая Зборка ё найвышэйшаю ўстановаю Таварыства, якая выбірае Сяброў Наглядне Рады, Цэнтральнае Школьнае Рады і разьвязуе астатачна ўсялякія справы Таварыства.

§ 34. Агульная Вялікая Зборка мае права пастанаўляць, калі зьбярэцца прынамся ¼ людзей, маючых права прымаць учасьце ў гэтай зборцы.

Аднак, для пастаноў аб зьмене статуту, ліквідацыі Таварыства і для пастаноў аб маемасьці Таварыства пры яго ліквідацыі, вымагаецца быцьцё палавіны Сяброў, якія маюць права ўчасьця ў Агульнай Вялікай Зборцы. У абвестках аб гэтай Зборцы падаецца парадак дня.

Пры няпрыбыцьці на Агульную Вялікую Зборку, вымаганае дзеля яго правамочнасьці колькасьці Сяброў—будзе Зборка друганаваротная на два тыдні пазьней і пастановы гэнае Зборкі будуць абавязаваць бяз увагі на лік быўшых на Зборцы. У абвестцы аб такой зборцы гэта павінна быць выразьліва адцемлена.

На другаваротнай Зборцы можна разглядаць толькі справы, што былі на парадку дня першае зборкі, што не адбылася.

§ 35. Пастановы Агульнае Вялікае Зборкі прымаюцца простай вялікшасьцяй галасоў. У справах-жа аб зьмене статуту, ліквідацыі Таварыства і пастаноў аб маемасьці Таварыства пры яго ліквідацыі—вялікшасьцяй 2/3 галасоў.

## 8. Ліквідацыя Таварыства.

§ 36. Калі-б Таварыства дзеля якіх-небудзь прычын было зьліквідавана або само зьліквідавалася, уся яго рухомая і ляжачая маемасьць пераходзіць на пашырэньне і падзержку асьветы ў беларускім нацыянальным дусе, згодна з пастановаю Агульнае Вялікае Зборкі, або абранае гэтай Зборкаю Ліквідацыйнае Камісіі, — аднак, захоўваючы паасобныя ўмовы дараў і запісаў.

**Аляксандар Дмахоўскі.**

**Міхал Кахановіч.**

**Францішак Аляхновіч.**

**Антон Луцкевіч.**

**Браніслаў Тарашкевіч.**

Niniejszy statut zawierający 36 §§ ów został zatwierdzony w Departamencie Spraw Wewnętrznych dn. I. VII. 1921 r. Wciągnięty do rejestru I pod № 16.

**Naczelnik Wydziału administracyjnego wz. Czarnocki.**



# ПАНШЧЫНА.

## I.

Князь забіў на ловах пару вялікіх, прыгожых ласёў. Вясёлы, здаволены, ажыўлёна гамонячы з гасьцямі, вярнуўся ён к вечару дамоў і заказаў кухару засмажыць адменнага зайца, забітага ўчора лоўчым на сьнягу у пушчы.

Жырны, чырвоны той заяц ужо ляжаў на століе у пякарні, і кухар жыва завінуўся ля яго.

Умельствам кухара гардзіўся сам князь і часта хваліўся гасьцям, што другога такога кухара ўва ўсім краі няма.

Кухар гэта ведаў і стараўся паддзержыць сваю славу.

Сягоньня ён асабліва стараўся: князь вярнуўся вясёлы, госьці рагочуць, абед будзе з паляўнічай выпіўкай,—можна й гасьцінца спадзявацца ад іх, а князь назаўтрае пахваліць і добрым часам дасьць чарку гарэлкі.

А не дагодзіш—бяда: зараз пацягнуць гайдукі на стайню і так адсмаляць раменнымі бічамі, што цэлы тыдзень ані сядзеш, ані ляжаш. Быў адзін выпадак (кухар заомуціўся, спомніўшы): перасаліў ён стравы, і князь сам, сваёй цяжкой рукой, так ударыў яго два разы поўуху, што й цяпер яшчэ у дрэнную пагоду з вуха гной цячэць. З гэтае прычыны кухар заўсёды насіў у вуху кавалачак мяккага хлопу і дрэнна чуў. І ці мала было такіх выпадкаў, што забіў-бы яго гнеўны князь да сьмерці ці здаў-бы ў салдаты, каб не даражыў яго залатымі рукамі і тонкім кухонным смакам. Пасьля калецтва прыкра было відзець князю кухара з заткнутым вухам, і ён ніколі ўжо ня гукаў яго на параду аб стравах да сябе, а пераказываў праз стольніка.

Ды сяньня князь быў у гэткім нязвычайным гумары, што першы раз захацеў сам пагаманіць з ім аб спосабе смажэньня зайца.

Калі хлопчык-гайдучок прыбег з палацу у пякарню (яна зьмяшчалася водаль, у васобным, адумысным будыначку), калі ён запыханы крыкнуў кухару: „Дзядзьку яснавяльможны кліча да сябе... барджэй!“—у кухара затрасьліся ад неспадзеўкі рукі і зазьвінела ў хворым вуху. Ен ня ведаў, пужацца ці радавацца яму? Падняў уронены рушнік, абцёр з рукі зайцову кроў і рупліва прыгладзіў лысіну і падкруціў вус.

— „Піражка... піражка, Янучок!“—саромліва, безраўнавагі зашаптаў ён гайдучку, агледзіўся наўкол, каб хто ня відзіў, схапіў з духоўкі румяны піражок і ўсунуў хлопчыку ў кішэню за добру вестку. Хлопчык быў рад, пагладзіў вялізнага адгадаванага ката, князёвага ўлюбёнца, што прыбег за хлопчыкам з пакояў, і паганяў дзядзьку: „Барджэй, барджэй! Чакае!“ І зараз памчаліся: хлопчык наперадзе, а кухар сьледам, на хаду спушчаючы засуканы рукаў.

Толькі мышасты кот астаўся, за недаглядам зачынены у кухні. Ен важна пахадзіў па стале, панюхаў зайца, потым глянуў пераз адчыненыя дзьверы ў чорны прыкухоньнік, дзе два малодшых кухары і судамой і хлопчык-дрыванос рабілі сваю работу.

Кату прыемна засьвярбела ў носе. ён глыбока пацягнуў пах ад вялізнае гарачае пліты, на якой бяз ліку стаяла рознага судзіньня з гатаванымі стравамі, клубілася з катла пара, шляхатала вада, сіпелі скавародкі, трэскалі дровы ў печы. Але бліскаíньне на паліцах соцен медных рондаляў (каструляў) усялякай велічыні, ад самай большай увелькі з цэбар да самай малюсенькай з катову галаву,—не спадабалася яму. Там былі адчынены другія дзьверы, і скрозь іх цягнуўся холад, можна было выскачыць на двор, але пануры выгляд кухароў, асабліва-ж хлопчык-дрыванос з вяроўкаю

ў руках не спадабаліся князёваму ўлюбёнцу, і ён найшоў, задраўшы тоўсты хвост, назад. Вучоны да ўсякіх штукаў, кот падскочыў, ударыўся ў клямку і расчыніў дзьверы. У сенцах узьлез на паліцу і настаражыўся: пачуў скрабаньне у скрынцы з крупамі.

Тымчасам у дзьверы вытыркнуліся з надвор'я морды двух хартоў — тонкіх як вужакі, сагнутых дугою. Адзін з іх пацягнуў носам і зараз зьнюхаў зайца. Мякка, пячутна падыйшоў да столу, задраў войструю морду, схапіў у шырачэнную зяпу зайцову галаву і цмыгнуў з сваім радым сябрам на двор у хартоўню.

Усьцешаны варочаўся назад глаўны кухар: князь з ім быў дужа ласкавы і навет даў пацалаваць сабе у руку.

Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыны шчасьця чалавек раптоўна зваліваўся ў самае бяздоньне юдолі плача і адчаю.

Шчасьлівы кухар, праходзячы міма хартоўні, пачуў у пуньцы хрустаньне, чаўканьне і ціхае вурчэньне... Харты штось пажыралі!

Хто ня ймець веры ў прадчуцьці, той, мабыць, гора не зазнаў ніколі у сваім жыцьці. Кухар меў яго даволі за свой марны век, і сэрца яго ёкнула: ці ня зайца жаруць праклятыя сабакі, падобныя да чартоў?

Угрунь пабег ён да свае кухні, ускочыў, падбег да столу: зайца няма! Болем пеканула ў кухарава сэрца. Ен кінуўся у прыкухоньнік, шыбка агледзіў усё і ўсіх. Зайца ня было, і кожны спакойна займаўся сваей работай. Як бы за якой справай выйшаў кухар ізноў на двор і марудна, прыціснуты няшчасьцем, паплёўся міма хартоўні, асьцярожна спаглядаючы у бок на сабачыя пунькі. Вось паказалася з аднае хартовая галава: морда ў крыві, вочы заплылі платаядным здаваленьнем

і ў зубах штось тырчыць... Хорт аблізнуўся, і з зяпы выпала заячая лапка!

Кухар панура паплёўся назад.

Увайшоўшы ў сенцы, ён прістоіў там, як няпрытомны, і мімаволі задраў галаву, шукаючы крука, дзе-б павесіцца.

І тут яшчэ раз трэба сказаць, што чалавек ніколі ня ведае, дзе згубіць, а дзе знойдзець. І няма такой злыбяды на сьвеце, на якую-б ня ўсьміхнуўся неспадзеўны, нечаканы ратунак.

У вочы кухару кінуўся ляжачы на паліцы кот — вялікі, адгадаваны, мякінька - пушысты, як той заяц.

Адчайная думка пранзіла кухараў мозаг; і ён паманіў князёвага ката к сабе выстаўленымі пальцамі. Кот прыжмуранымі вачыма зьмерыў постаць старшога кухара, важачы яго вартасьць у каціных вачох. Ад кухара прыемна пахла, вочы яго былі пакорна-ласкавыя, і кот патрошку, важна стаў падхадзіць да выстаўленых пальцаў. Як толькі ён даткнуўся іх сваёю гладкаю, шаўковаю шэрсткаю, пальцы з дзікай зьнявагаю абхапілі яго карак і пацягнулі у паветра. Кот захлынуўся ад шалёнай злосьці й крыўды. Абдумаўшысь, ён люта ашчэрыў зубы, заглабаў кіпцямі і закруціў хвастом; абраз князя стаяў у выкачаных з галавы вачовых яблыках і напаўняў кацінае сэрца зласьлівай радасьцю бясьсільнага, што ворагу князёвага ўлюбёнца будзе лютая кара за гэты зьдзек. Ды пальцы сьцягнулі яго карак мёртваю патлёю і нясьлі ў брыдкім паветры да дзьвераў прыкухоньніка. Калі дзьверы за людзьмі зашчапіліся на чэп, у вольнай руцэ адзінокага кухара бліснуў вялізны, жудасны кухонны нож. Кот сабраў астаткі сілаў, сударжна ірвануўся і згубіў прытомнасьць. Гарачая кроў палілася з яго парэзанага горла, і наступіла вечнасьць.

У вадзін мамэнт садраная скурка была кі-

нута у дальні кут пад печ, а чырвоны, жырны аблупалены катовы труп з адсечанай галавою, ляжаў, як добры, адменны заяц, на стале. Кухаравы рукі набралісь цьвёрдасьці, сэрца патроху сьціхла калаціцца, і кухарская работа закіпела. Час-адчасу кухар шаптаў „Вочча наш“, хрысьціўся, абціраў пот, але маўкліва, старанна смажыў, перчыў, палівау...

## II

Першы раз за ўсё жыцьцё еў князь і яго госьці такога смашнога зайца. — „Вот заяц — дык заяц! — хвалілі госьці; — пальчыкі аблізаць.“ Князь прыемна ухмыляўся і часам навет каяўся, нашто калісьці ў страшным гневе скалечыў кухара. — „Заяц добры, але і кухар мой нягоршы, — хваліўся ён: — граф Зібэр-Плятэр суліў мне летась за яго трыста злотых, ды я й за тысячу не аддам; мяркуйце, панове, самі: залатыя рукі, што?“

Гутарка узьбілася на залатога кухара, і падвыпіўшыя госьці захацелі паглядзець на яго. Паслалі гайдука ў пякарню, каб прывёў. — „Скуль ясьневяльможны дастаў яго?“ — пытаўся граф Бжастоўскі, вядомы у сваім часе на усю Рэч Паспалітую дуэліста і забойца аднаго В-га ксяндза.

Хто чытаець старынныя кнігі, той ведаець аб гэтым скандальным забойстве графам жартаўліваго ксяндза, быўшага яго духаўніка і друга. Для няведаючых — кароценькая справка. Ксёндз быў з дробнай шляхты і за чаркай мёду любіў, па жартаўлівасьці сваей натуры, пасьмяяцца над важнымі тытуламі. Аднойчы, гасьцюючы ў графа ў Бжаставіцах, у цеснай выпівацкай кумпаніі, у якой быў і граф, ксёндз гэты апавядаў вядомую беларускую лягенду аб пахаджэньні князёў і графаў. — „Калі бог тварыў людзей, дык кандыдатаў

на князёў і графаў ён памазаў маслам. А нейкі падла-сабака, смакуючы масла, прыбег і зьеў памазаных. Загневаны бог схапіў яго за хвост і пачаў трэсьці. З-пад хваста пасыпаліся кандыдаты, і які зваліўся пад вішню, зрабіўся князь Вішнявецкі, каторы пад асіну — граф Асіноўскі, а той, што пад бярозу, той граф Бжастоўскі, пабеларуску Берасгоўскі"... Шалёны граф, самалюбны ў тытульных справах, прымусіў свайго духаўніка тут-жа, у кабінэце, стаць з ім на паядзінак і забіў з пісталета перабраўшага мерку, хмельнага ксяндза, за што мусіў на нейкі час навет уцячы ад каралеўскага суда за межы Рэчы Паспалітай.

—Скуль ясьневяльможны дастаў яго? — спытаўся ў князя аб кухары гэты самы граф Бжастоўскі.

— Мой падданы... тутэйшы. Ні ў Парыжы, ні ў Варшаве ня вучыўся, — мабыць, з кухоным геніем радзіўся.

— Што-ж так доўга не вядуць генія сюды? — запытыўся адзін пануры стары пан.

Князю не спадабаліся гэтыя словы, ён нахмурыўся і паслаў другога гайдука. Той ведаў князеў гнеў і помчаўся, як страла.

Тым часам з кухарам рабілася няма ведама што. Першы пасланец, зьдзіўлены, нерашучы стаяў над ім, старым, і ня мог даць рады, каб ішоў да князя.

Кухар зьбялеў, дрыжэў і не казаў ні слова. Ён глядзеў на пасланца вытрышчанымі вачыма і ня рушыўся з месца, быццам прыліпшы. Потым, урэшце, паволі скрануўся і пабрыў у сваю каморку, побач з прыкухоньнікам. Асунуўся там на калені, злажыў перад абразом рукі далонямі, як на малітву, і ўзноў там скамянеў. Не маліўся, ня

кланяўся, толькі стаяў на каленях і глядзеў на вобраз.

Доўга прастаяў-бы ён так, каб ня прыбег другі пасланы. Тады двое гайдукоў схапілі незразумела здурнеўшага кухара пад пашкі і пацягнулі у палац. Ногі яго ня йшлі, згібаліся, лоб узапрэў, зьмярцьвеласьць на твары не зьмяншалася.

— Упіўся ты з радасьці ай што?—крычэў на яго старшы гайдук. — Князь хоча паказаць цябе гасьцём, які ты, знацца, ёсьць штукар зайцоў смажыць, а ты й язык высалупіў... Ідзі ўжо сам! — і піхнуў яго зьлёгку ў бок.

Але кухар заваліўся на сьнег і ня йшоў. Потым ён схапіўся рукою за грудзі і балюча застагнаў: „Ай, людцы, сэрца, сэрца баліць!“

Гайдукі спужаліся праўды, але ня важылісь марудзіць і, схапіўшы яго, пацягнулі далей. Чэлядзь, якая бачыла гэты абраз, з подзівам і страхам прыглядалася, уважаючы, што кухар правінаваціўся і яго цягнуць катаваць. З палацу выскачыў стольнік. Спытаўшыся на бягу, што такое, схапіў жменю сьнегу і пацёр кухару лоб. Тады ён трохі ачуняў і слаба паплёўся сам.

Калі гайдукі адчынілі дзьверы ядальнага пакою, паны шумна ґаманілі, наперабой хвалячыся сваімі ўдачамі на ловах, рагаталі, строілі розныя жарты на свой панскі манер. Граф Бжастоўскі першы заўважыў і сьмяючыся закрычэў: „Генія, генія, здаецца, прывялі!“

— А, вось ён геній... — прабурчэў пануры стары пан і усьміхнуўся: — праўда, якісь асаблівы, быццам з таго сьвету... Але зайца смажыць мастак!

Госьці патроху сьціхлі і павярнулі галавы туды, дзе між двух рослых, здаровых, як дуб'е, гайдукоў, стаяў пахілены, зьбялелы кухар.

— Што табе зьдзеілася, дурню? — скажы-тка нам, як ты смажыў зайца?

Кухар толькі шавяліў васковымі вустамі і нічога не казаў.

Князю было прыкра, што яго чалядзінец такі затуканы і баязьлівы.

— Што табе, дурню? — ізноў спытаўся ён грэблівым голасам; — чаго без пары спужаўся: за добрую работу будзеш мець добрую заплату.

Кухар зразумеў гэта, як пагрозу, і асунуўся на каленькі.

— Князёчку! — залямантаваў ён, — харты яснай міласьці, харты, каб на іх палярушш!

Ніхто нічога не разумеў. Харты яго спужалі ці што? Князь насупіўся, што кухар папсаваў яму добры гумар. Але ён не хацеў крута мяняць такую нядаўную ласку на гнеў і намерыўся яшчэ раз спытацца, у чым справа. Толькі ён тое падумаў, як кухар скручыўся і схапіўся абедзьвюма рукамі за грудзі.

— Ой, сэрца, людцы! Ой, сэрца!..

— З ім сардэчны прыпадак ад якога-сь перапуду, — сказаў пануры стары пан і стаў ліць у шклянку сьцюдзёнае вады, каб ратаваць няшчаснага; ён знаўся на лячэньні хвароб. — На, выпі, галубец, — прыклаў ён да зубоў кухара зазьвінеўшую шклянку і з прыючай іроніяй дадаў: — сардэчная хвароба — хвароба геніяў.

— Ой, людцы! Ой, людцы! — жаласна і сьмяхотна лямантаваў кухар, скрабучы грудзі кіпцямі

Усім зрабілася ніякава.

— Гэта мы яму—,,людцы",—усьміхнуўся шляхетны граф Бжастоўскі на простую мову кухара

— Вядзіце яго! — загадаў князь гайдукам. — Хартоў спужаўся, як дзіця... — прабурчэў ён усьлед падданаму і для супакою гасьцей зьвярнуўся голасна і як нічога ня было: ,,Гэта што — пара ласёў! Вось як мы летась палявалі з гра-

фам Зібэр-Плятэрам, — зуброў накрылі ў маёй дальнай пушчы...

— Зуброў?!

— Зуброў?!

І шумная лоўчая размова паноў аднавілася. Зараз забыліся аб смашным зайцу і аб хворым кухару.

III.

Хворы кухар стагнаў на ложку у сваёй каморцы.

Зьявіўся дваровы фэльчар, даў выпіць супакойных капак, пытаўся, як сталася хвароба. Не дабіўшыся ніякага адказу, махнуў рукою і пайшоў сабе.

Малодшыя кухары ад смутку і дзеля спачуцьця--выпілі, і сваім гоманам дурылі галаву хвораму.

Позна ўвечары прыбег захныканы гайдучок Ясюк шукаць запрапашчонага ката. Ен аблазіў усе куткі ў пякарні і нідзе яго не знайшоў, толькі выцягнуў з запечча зайчую скурачку, якая дужа нагадавала яму ката. З ёю ў руцэ прыйшоў ён да хворага, калі там нікога ўжо ня было, і стаў плакаць і жаліцца дзядзьку, што баіцца князя за ката.

— Можа ўцёк у лес... Можа сабакі разарвалі... Заўтра яснавяльможны спытаецца, дзе кот... Што я скажу? Гу-гу-гу, — румзаў бедны хлопчык, прыпаўшы да скуркі тварам. — Вось ён такі быў гладзенькі, як зайчык... Прышоў са мною сюды ў пякарню, а потым, ня ведаю, дзе дзеўся?.

— Ня ве-едаеш, Ясюк? — узьняўся з ложка хворы і уталопіўся на мальца зьдзіўленым паглядам. — Ня ведаеш, дзе падзеўся твой... гаты... кот?!

— Ня ве-е-едаю-ю, гу-гу-гу, — ня сунімаўся,

плакаў Ясюк. — Можа ўцёк у лес ці на вёску, сабакі там мужыцкія разарвуць яго, гу-гу-гу...

— А ў пакоях ніхто ня ведае дзе ён, халера, падзеўся? — ажывіўся хворы кухар.

— Ніхто ня ведае, ня відзелі.. ўва ўсіх пытаўся. Што мне цяперака рабіць, дзядзечка, гу-гу гу, будуць сячы мяне, што ня ўпільнаваў.

Сьмяротны цяжар раптам скаціўся з кухаравых плеч. Вялікім шчасьцем засьвяціліся змучаныя, праваленыя, з сінякамі ад сардэчнае хваробы вочы. Ком радасьці ускалыхнуў збалелыя грудзі. Спачуцьцё шчасьлівага да няшчаснага сфальшывіла чыстую у муках душу чалавека. З няшчырай пяшчотаю ўцалелага ў агульнай катастрофе прыцягнуў кухар хлопчыка да сябе, прытуліў, гладзіў па галоўцы, жалеў, кажучы з найбольшай даступнай яму ласкавасьцю:

— Дзетка маё! Сіротачка мой бедны! Ня бойся, ня плач, няк-жа абойдзецца. Ну, абсякуць, натое-ж мы слугі панскія, каб нас секлі. Ня бойся, да сьмерці-ж не заб'юць. Во й мяне колькі разоў секлі, — нічога, неяк-жа мадзею... Супакойся, мой Ясючок, галубок мой! Здохні ён, кот! Можа, яшчэ й знойдзецца. Калі сабакі не разарвалі, вернецца, як захоча есьці, ліха яго ня возьме... Цябе князь любіць, можа й даруе, калі навет і згіне гэты падла.

Хлопчык, круглы сіротка, узяты з вёскі ў замак ад малых гадоў, рэдка чуў такую бацькаўскую гутарку. Ён паволі змаўкаў, сьціха хліпаючы ня столькі ад гора, колькі ад расчулёнасьці. Ласка старога кухара, даўшага яму сяньня піражок, растапіла яго сэрца, як цяпло растаплівае воск. Хлопчык прыпаў да кухаравай рукі і пацаваў яе так, як цалуюць рэдкія дзеці у рукі сваім бацьком. Скурка выпаўзла з яго далоні і скацілася на ложак. Кухар зорка сачыў за ёю і ўдзіль-

наваўшы злучнасьць, пасунуў локцям назад, і яна звалілася за ложак. Тады кухар пачаў умаўляць хлопчыка, каб ён ішоў класьціся спаць.

— А як-жа, дзядзька, хворы адзін будзеце ляжаць? — з дзяціным прыяньнем спытаўся хлопчык, паглядзеўшы на старога чысьценькімі, абсохлымі ад слёз вочкамі.

— Нічога, Ясюк! Не шкадуй мяне, бо мне ўжо крышку лепей...

21 VIII-1921 г. Максім Гарэцкі.



* * *

У небе пылаюць чырвоныя хмары;
Як горкія мары, на нівы, папары
Кладуцца вячэрнія цені.
Ад пахаў вячэрніх рака, бач, самлела...
Нячутна, нясьмела сьвятло адляцела,
Сплёў месяц празрыстыя сеці...
Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,—
Таёмнай, няцяжкай, маўклівaю казкай
Апошнія сьцішыла гукі...
Адкінуў злы ветрык далёка жалейку,
Што тугу-зладзейку будзіла зьняцейку,
Адкінуў і ў вецьці схаваўся,
Адна ноч над цёмнай зямлёй варажыла,
Сны-чары насіла, *тальлё варушыла...
І горка, а дзіўна маўчала...
А хто разгадаў яе сумы-трывогі?
Мо' лес вечна строгі, мо' месяц двурогі?
Не, хворае сэрца людзкое!

1921 г. Натальля Арсеньнева.



# ДЗЕД.

Патухшымі вачыма
Глядзіць на божы сьвет
Стары, у крук сагнуты,
Як голуб, белы дзед.

Пражыў на сьвеце многа:
Бяз нечага сто год;
За век пабачыў гора,
Ня мала вынес слот.

Калісьці да паўстаньня
Рабіў, цярпеў прыгон...
К нямцом ня раз віціны
Ганяў па Нёмне ён.

Меў сілу непамерну,
Здаровы быў, як мур,
Таму так жыва, з песьняй
Гарэ сын родны — „шнур“;

Таму так—шчыры ў працы —
Будуе Край Свой ўнук,
Адважны і бясстрашны,
Не пакладае рук.

А дзед жыве мінулым,
Таёмным і глухім,
Гаворыць-бае казкі
Аб даўным і сівым;

Пра войны, панства, войтаў,
Русалак і начніц, —
І хараством чаруе
Няхітры склад быліц.

І часта паглядае
За вёску ён... туды,

Дзе між бяроз пад крыжам
Спачыне ад бяды.

Ды хоць стары, а думку
Гадуе ўсё адну:
Хоць перад сьмерцю ўбачыць
Свабоднай старану!

Валадзімер Жылка.

1921 г.

# Старадаўны беларускі вайсковы статут.

(Палова XVII века).

У цікавым аглядзе манускрыптаў і друкаваных помнікаў па ваяўніцтву ў Маскоўшчыне на 1725 г., аўтор яго апісвае, паміж іншым, і адзін з старадаўных беларускіх статутаў.

Гэты беларускі рукапіс, пісаны скарапісьсю на 90 аркушох, захаваўся у Пецярбурскай Публічнай Бібліатэцы і называецца „Аб прадугатаўленьні рэчаў к вайне патрэбных". Па часу напісаньня яго трэба аднясьці к палове XVII веку.

У гэтым статуце гаспадарская і адміністрацыйная часткі зьмешаны з часьцю тактычнай.

Пачынаецца статут указаньнем асобаў, патрэбных дзеля войска, перш гаворыцца аб правадырох, а потым аб майстрох і рамесьніках, Далей зьмешчаны думкі аб войску наагул, узятыя з твораў Вэгэцыя, Тэртуліана і іншых; за імі выкладаецца прыгатаваньне пораху, ракетаў і іншых падобных рэчаў.

Пасля апісываецца страляньне з гарматаў і падкопы (мінная вайна). Затым невядомы аўтор статуту спыняецца на вытварэньні высадкаў (дэ-

сантаў) і па супольных дзеяньнях войска і флёты і заканчавае свой твор указаньнямі па абароне гарадоў і крэпасьцяў.

У свой час статут гэты меў нямалую вартасьць, як сярод беларусаў—вайсковых Літвы і Кароны, таксама і ў Маскоўшчыне, тады надта беднай кнігамі наагул, а тым больш па ваяўніцтву.

А. Р.



# БУДКА № 175.

Паміж узгоркаў дзьве сталёвых зьмейкі,—
Упоперак іх крэсьляць шпалаў рэйкі.
Па бакох высокія стаўбы...
Пераезд. Рагаткі тры са дроту,*
Па сьцянах сьляды шрапнэляў, шроту,
То сьляды мінуўшай барацьбы...
Ой, калісьці тут зьвінелі пшчолы,
Жвава кулямёт страляў вясёлы,
Змагалася ваяцкая сям'я...
А цяпер навокал сьпее збожжа,
Ля крыніцы чырванее рожа,
Бо крывёй напоена зямля...

# На старой дзялянцы

Куды ні глянь — гарматаў, мінаў шмат,
Акопы, рэйкі ды пячураў лісьсіх брамы,
На батарэі два лафэты без гармат —
Нямыя сьведкі незабытай драмы.
Адвіснуў дрот. Асыпаўся акоп.
У ягоным рве клубком вужакі ўюцца.
Няма людзей... ў чужыне земляробы...
Бог ведае, ці прыдзецца вярнуцца.

Алесь Смаленец.

# Сьпісаньне па страніцах.